Павел ЛАТУШКА →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

Фэст у Рэйпічах →9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 38 (3358) Год LXV | Беласток, 20 верасня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Плошча Касцюшкі ў Беластоку чарговы раз запоўнілася белым і чырвоным колерамі. 14 верасня найстарэйшы беларускі тэатр імя Янкі Купалы ў Мінску адзначыў стагоддзе існавання. Напярэдадні круглага юбілею ў цэнтры горада плылі словы падтрымкі ды беларускія песні ў бок акцёраў і супрацоўнікаў, якія сталі ахвярамі рэпрэсій і пераследу. Менавіта тут, у сэрцы Падляшша, гэты важны юбілей кожнаму беларусу адзначыў таксама не так даўно звольнены дырэктар тэатра Павел Латушка.**

# Беласток спявае „Купалінку"

## — беларусы салідарныя з Купалаўскім тэатрам у Мінску

13 верасня — напярэдадні стагоддзя існавання Купалаўскага тэатра ў знак салідарнасці з акцёрамі і супрацоўнікамі, якія мужна і рашуча выступаюць за дэмакратыю і свабоду, на Плошчы Касцюшкі ў Беластоку ізноў з'явілася каля сотні людзей апранутых у колеры гістарычнага бела-чырвона-белага сцяга Беларусі. Прадстаўнікі беларускай дыяспары Беластока, якія былі арганізатарамі акцыі, усім уручылі тэксты песні „Купалінка", якую праспяваў звязаны з Падляшшам вядомы беларускі бард Алег Кабзар. Як заўсёды, былі прысутныя таксама прадстаўнікі беларускай меншасці, якія таксама віншавалі суайчыннікаў са святам беларускай культуры і са стагоддзем беларускага нацыянальнага тэатра.

— Трэба разумець, што тэатр і культурнае жыццё вельмі важнае ў жыцці грамадства, тым больш у такіх момантах, калі рашаем і паказваем сваю пазіцыю, — адзначыла працаўніца Падляшскай оперы і філармоніі, вядомая вакалістка гурта «Ilo&Friends» Ілона Карпюк. — Супрацоўнікі тэатра Янкі Купалы і дырэкцыя вырашылі ўзяць на сябе вельмі важную гістарычную адказнасць. Яны ў гэты гістарычны момант для Беларусі паказалі найважнейшую задачу культурных устаноў. Яна ў тым, што каб для развіцця грамадства быць патрэбным, трэба быць аўтаномным і незалежным, а калі прыйдзе вырашальны момант, трэба быць сугучным са сваім грамадствам.

Ілона Карпюк, як прадстаўніца беларускай меншасці ў Польшчы, таксама жадала ўсім суайчыннікам з Беларусі вытрымкі і сілы ў змаганні за незалежнасць. Пасля абвяшчэння вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі 9 жніўня таксама ў Беластоку працягваюцца мірныя пратэсты,ладжаныя пад беларускім генконсульствам ці ў цэнтры горада на Плошчы Касцюшкі. Акцыі і маршы салідарнасці аб'ядноўваюць дэманстрантаў, якія супрацьстаяць не толькі фальсіфікацыі выбараў, але і ўладзе Аляксандра Лукашэнкі, які на пасадзе прэзідэнта знаходзіцца ўжо больш за 25 гадоў. Актывістаў апазіцыі пераследуюць, прымушаюць пакінуць сваю краіну. Жахлівая палітыка кіраўніка краіны не абмінула людзей культуры. Міністр культуры Беларусі звольніў Паўла Латушку з пасады дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы 17 жніўня пасля таго, як Латушка падтрымаў акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў і парушэння правоў чалавека беларускімі службамі. Пасля звальнення дырэктара акцёры сышлі ў адстаўку.

— У гісторыі кожнай краіны ёсць эпахастваральныя моманты, — падкрэсліў на Плошчы Касцюшкі Павел Латушка. — І такім момантам, гістарычнай падзеяй было заснаванне Купалаўскага тэатра. Артысты, рэжысёры, якія працавалі і працягваюць працаваць, заўсёды дамагаліся свабоды нашай роднай Беларусі. Яны дакраналіся да душы людзей і хацелі атрымаць зваротную сувязь. Менавіта сёння яны чуюць гэтую зваротную сувязь таксама тут, у Беластоку. Вы разам з Вольнай Беларуссю змагаецеся за права „людзьмі звацца", як казаў класік Янка Купала. Я перакананы, што перад намі лепшая доля і будучыня нашай Беларусі, бо мы прайшлі гэты рубеж і ў нас няма ўжо зваротнага шляху.

Сітуацыя ў Беларусі таксама ўскладніла планы Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку, які з'яўляецца арганізатарам тэатральнага фестывалю „Напрамак усход". Адной з запрошаных груп быў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ў Мінску. З-за зыходу акцёрскай часткі не атрымаецца прадставіць запланаваны спектакль. Са словамі салідарнасці з прадстаўнікамі тэатральнага асяроддзя ў Мінску і да пратэстоўцаў супраць рэжыму Аляксандра Лукашэнкі звярнулася актрыса Беластоцкага драматычнага тэатра імя Аляксандра Венгеркі Дарота Бялкоўская і дырэктар Лялечнага тэатра ў Беластоку.

— Мы салідарныя з нашымі беларускімі сябрамі, — падкрэсліў у час акцыі дырэктар Яцэк Маліноўскі. — Маем многа супольных сустрэч за сабою і хочацца, каб надалей сустракацца з імі на тэатральных падмостках і супольна ствараць цудоўныя рэчы.

Беластоцкія акцёры ў рамках падтрымкі „купалаўцаў" арганізавалі ўжо ў Беластоку чытанне драмы беларускага аўтара Дзмітрыя Багаслаўскага „13 асноўных правілаў баскетбола". Драма распавядае пра, здавалася б, апалітычнае жыццё і праблемы маладых людзей у сучаснай Беларусі. У чытанні прынялі ўдзел акцёры Беластоцкага лялечнага тэатра, Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі, Тэатра Вершалін і Тэатра Чрэва з Іаннай Троц.

Дзеячы культуры, беларуская інтэлігенцыя на дадзены момант не маюць магчымасці выступаць у сваёй краіне. Таму магчымасць агучвання сваіх пастулатаў за мяжой для іх вельмі важная.

— Маральная падтрымка вельмі важная, — падкрэсліў на Плошчы Касцюшкі Павел Латушка. — Да гэтай пары людзі тэатра змагаюцца перш за ўсё праз сваю творчасць. Мы адзін народ, мы змагаемся за незалежнасць і свабоду. Мы зараз усе купалаўцы.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

9 770546 196017



# Мова Праўды

Цэнтр Гародні ачэплены. Звычайны выходны дзень. Аўтазакі, міліцэйская машыны, спецтэхніка... Цэнтральныя плошчы агароджаныя турнікетамі. Людзі ў камуфляжах паўсюдна. Тут і сінія чалавечкі ў міліцэйскіх мундзірах, і зялёныя, у нявызначаных, і пераапранутыя ў цывільнае, але не цывільныя, а найбольш гэтай сілавой публікі ў чорным... Яны самыя актыўныя, тыя чорныя людзі, з чорнымі дубінамі ў чорных балаклавах на галовах, пад якімі хаваюць свой твар і сумленне. Зрэшты, сумленне такая штука, якая непакоіць толькі тых, у каго яно ёсць. Значыць, хаваюць толькі твары. Больш няма чаго.

Так не толькі ў Гародні. Так па ўсёй Беларусі.

Людзі ў чорным хапаюць і валакуць у аўтазак дзіця, якое на асфальце крэйдай напісала „Жыве Беларусь!!!", пырскаюць газам у мірных дэманстрантаў, якія са словамі „Жыве Беларусь!!!" проста ідуць у калоне па вуліцы, б'юць дубінай, заламваюць рукі, цягнуць па асфальце, затрымліваюць...

Паралельна з актыўным вулічным пераследам жыхароў Беларусі масава выклікаюць у кабінеты сілавікі. Тут і пракуратура, і міліцыя, і следчы камітэт... Іх так многа, аказваецца, панаставана, што рана ці позна аніякі бюджэт не змог бы пракарміць. Толькі працалюбівыя беларусы маглі выцягваць так доўга на сабе аж такую пплойму. І ўся тая плойма зараз займаюцца адным — выклікаюць прадстаўнікоў гэтага народу ў свае кабінеты, якіх таксама безліч...

Ды што пра іх гаварыць. З'ява янычарства не новая і добра вывучаная. Заўсёды і ва ўсіх народаў знаходзяцца тыя, хто за добры заробак, або за перспектывы ў кар'еры, або проста за маніякальнае адчуванне сваёй усёдазволенасці і набыцця гвалтоўнай перавагі над іншымі, гатовы быў на самыя жорсткія дзеянні ў дачыненні да сваіх суайчыннікаў. Гісторыя кішыць такімі прыкладамі. Сёння пра іх гаварыць не хочацца.

Значна больш вартым увагі ёсць іншае, як людзі не за здабытак, не за кар'еру, не за заробак, а за праўду гатовыя ахвяраваць сабой. За Праўду, за Свабоду, за Справядлівасць! За будучыню сваёй Радзімы! За Людскасць! Проста, каб звацца і быць чалавекам! І іх большасць. Уся Беларусь выходзіць з нацыянальнымі сімваламі і становіцца насупраць узброеных у чорным...

Жанчына адчыняе дзверы сваёй кватэры і хавае ад сілавікоў з дубінамі зусім невядомых ёй людзей, рызыкуючы, што за гэта ў тыя дзверы пагрукаюць няпрошаныя госці. Супрацоўнік Міністэрства надзвычайных сітуацый, якога прывезлі адмыслова, каб ён зняў бела-чырвона-белы сцяг з вышыні, не здымае яго, а наадварот разварочвае, каб той залунаў яшчэ мацней і губляе працу. Уладальнік бара зачыняе дзверы перад сілавікамі, якія гоняцца за пратэстоўцамі, рызыкуючы сваім бізнесам. Аўтамайстры задарма рамантуюць транспарт зусім невядомых ім людзей, які пабілі сілавікі за тое, што шафёр гудком падтрымліваў дэманстрантаў. Бацюшка б'е ў званы храма, каб спыніўся гвалт. Шахцёр прыкоўвае сябе ланцугамі ў шахце, каб улада пачула патрабаванні рабочых. Апазіцыянерка дзярэ ў лахманы на мяжы свой пашпарт, каб яе не выкінулі за межы Радзімы і свядома ідзе за краты. Студэнты выганяюць з універсітэтаў сілавікоў і ўступаюць у спрэчкі з кіраўніцтвам і ідэолагамі сваіх навучальных установаў, рызыкуючы быць выгнанымі з вучобы. Выкладчыкі заступаюцца за студэнтаў, рызыкуючы быць выгнанымі з навучальнай установы. Рабочыя аб'яўляюць страйк, ведаючы, што іх павыганяюць з працы. Работнікі культурных устаноў, інтэлігенцыя, журналісты, заяўляюць сваю пазіцыю і губляюць працу, і той і так невялікі хлеб, які мелі. Супрацоўнікі сілавых структур звальняюцца, ведаючы, што проста звальненнем ім не адкруцяцца. Работнікі выратавальных службаў выцягваюць з ракі загнаных туды АМАПам дэманстрантаў, перавозяць іх на другі бераг, ратуючы тых ад арышту, і самі аказваюцца пад арыштам. Людзі скідваюцца апошнімі сродкамі, каб дапамагчы бліжняму аплаціць штраф, накладзены судамі за ўдзел у мірным пратэсце. Жыхары ў сваіх гарадах ідуць масава пад месцы затрымання суайчыннікаў і носяць зусім невядомым затрыманым перадачы ў ізалятары, хоць іх саміх там і затрымліваюць, і б'юць...

Вядомыя беларусы робяць заявы, спартоўцы ідуць у шэрагах разам з пратэстоўцамі, музыкі граюць для іх, былыя дэсантнікі апранаюць на акцыі пратэсту армейскую вопратку і бяруць у рукі плакаты „Мы разам з народам", незнаёмыя людзі нясуць дэманстрантам ежу і цяпло, і ўсе разам аб'ядноўваюцца любоўю. Любоўю да Беларусі.

Моладзь і сталыя, рабочыя і інтэлігенты, жанчыны і мужчыны, ідуць адстойваць праўду, нягледзячы на рызыку. І нават тыя зверствы, якія ім прыйшлося зведаць з боку сілавых структур пад час арышту і ўтрымлівання ў няволі, і якія не ўмяшчаюцца ў разуменні і псіхіцы нармальнага чалавека, не змаглі іх зламаць. Яны выходзяць, рызыкуючы ўсім, нават здароўем і жыццём.

І ўсе, паўсюдна, вывешваюць, падымаюць, носяць нацыянальную, бела-чырвона-белую сімволіку, хоць менавіта за яе на іх і накідваюцца...

Але людзі носяць, каб паказаць, што мы Народ! Што мы Беларускі Народ! Каб паказаць уладзе, усяму свету, а найперш самім сабе, якім ён ёсць насамрэч той Беларускі Народ!

Цуды добразычлівасці, узаемападтрымкі, самаахвярнасці і іншых найвышэйшых якасцей велічы чалавечай натуры зараз паказваюць Беларусы. Яны паказваюць якія яны ёсць сапраўдныя ў сваёй душы, і што гэтая душа толькі чакае моманту і ўмоў каб праявіць сябе з найлепшага боку.

І яшчэ на адну найважнейшую рэч варта звярнуць увагу. Лідар вядомай групы „J: Морс" Уладзімір Пугач папрасіў прабачэння ў сваім новым кліпе „Даруй" у тых, хто ўсе гэтыя гады змагаўся з рэжымам, нават тады змагаўся, калі ў іх яшчэ не было такой масавай падтрымкі, як сёння. І падабраў вельмі цёплыя словы. „Нізкі паклон тым, — сказаў ён, — хто ўжо дзесяць, пятнаццаць і дваццаць гадоў таму знаходзіў у сабе сілы, перамагаючы страх, рызыкуючы і ахвяруючы сабой, адстойваць нашы правы. Дзякуй вам і прабачце, што так доўга вас даганялі".

Вось такія ўчынкі, а гэта насамрэч сапраўдны ўчынак сапраўднага грамадзяніна, разам з іншымі праявамі чалавечнасці, якія зараз у Беларусі праяўляюцца паўсюдна, і завяршаюць разгадку беларускай душы. Гэтыя словы ўдзячнасці былі звернутыя да тых, хто ўсе гэтыя гады з такімі ж самымі словамі на ўсіх сваіх імпрэзах гэтак жа шчыра дзякаваў мінулым пакаленням, якія біліся за беларускую свабоду, за чалавечую справядлівасць, проста за праўду. Зараз падзякавалі і ім. Падзякавалі тым, большасць з якіх нават у новай Беларусі будуць незапатрабаваныя. Бо ўсё жыццё змагаліся з рэжымам, а не рабілі кар'еру, не нажылі багацця, не стварылі імя, не адчынілі бізнесу... Бо менавіта пастаяннае змаганне з рэжымам, які ў іх разуменні атаясамліваўся са злом і антыбеларускасцю, менавіта гэта і быў іх прафесійны ўзровень, які яны ўвесь час павышалі. Таму трэба было ісці гэтым шляхам.

Адзін з найвялікшых палітыкаў навейшай гісторыі прэзідэнт ЗША Рональд Рэйган неяк сказаў, што Свабода знаходзіцца на адлегласці ўсяго аднаго пакалення ад свайго знікнення, калі за яе не змагацца. Таму нельга было дапусціць, каб у змаганні за Беларускую Свабоду выпала гэтае пакаленне.

Большасць старой апазіцыі зараз не так разбіраецца ў камп'ютарах, як таго патрабуе час, і ў бізнесе, які апярэдзіў іх магчымасці даўно, і нават у палітыцы, якая стала зусім іншая і значна больш фальшывая чым тады, калі яны ў яе прыйшлі. Таму і там не будзе ім месца. Большасць з іх не ведаюць так зараз патрэбнай англійскай мовы, бо ўвесь час, калі іншыя вывучалі англійскую, вучыліся гаварыць праўду па-беларуску. І гаварылі. Гаварылі праўду. І гаварылі яе па-беларуску. І гэтую праўду зараз пачуў увесь народ.

Зрэшты, для іх, хіба, няма большай узнагароды, чым тая ўдзячнасць, тая падзяка, і бела-чырвона-белая сімволіка ў руках суайчыннікаў. Тысячы і тысячы нацыянальных сцягоў і гербаў „Пагоня" ў тысячах і тысячах рук беларусаў... Якая яшчэ трэба рэч, каб зразумець, што ўсё было не дарэмна?!

Шлях гаварыць праўду па-беларуску і ёсць шляхам беларускай перамогі.

Вось і атрымліваецца, што беларуская мова зараз стала самай праўдзівай мовай свету. Бо за апошнія даволі фальшывыя часы на ёй лгалі менш усяго. І не таму, што на ёй гаварыла не так шмат народу. А таму, што тыя, што ёй карысталіся, гаварылі праўду.

Нездарма ўлада ў Беларусі перайшла на іншую мову, але не на сваю нацыянальную.

Затое свая, нацыянальная, засталася не спаганеная іх ілжывасцю, як і нацыянальная беларуская сімволіка.

У Беларусі зараз усё неадназначна. Як гэта не парадаксальна гучыць, але яе далёкую будучыню прадказаць значна прасцей, чым блізкую. Цяжка сказаць, што будзе праз дзень, ці тыдзень, ці нават месяц. Але лёгка прадбачыць, што і як будзе праз год, тым больш, праз некалькі год.

Бо Беларускае Адраджэнне працягваецца і спыняцца не збіраецца. Прыйшоў час Беларускай Сімволікі, прыйдзе і час Беларускай Мовы.

**Віктар САЗОНАЎ**

* * *

*Калючы дрот*
*яму не паможа!*
*Не памогуць нагнаныя*
*бяствары твары!*
*Народ Беларусі ўсё*
*пераможа!*
*Злыдзень згарыць ад*
*Сэрцаў пажару!*

*Міра ЛУКША*

# На табе!



— Нядаўна я быў на Беларусі, — хваліўся мой сябар, паляк з Варшавы. — Беларусы мяне ўразілі. — А ты не быў ... у Беларусі? — спытаў я яго, як паляк з-пад Нарвы. — Як гэта? — здзівіўся сябар. — Ну так, — адказаў я і прызнаю, што гэта прагучала і арбітральна, і даволі загадкава. — Ты кажаш: у Беларусі?.. — надуўся сябар. — А не на?!. Форма ж «на Беларусі» правільная. Больш за тое, яна захоўваецца ў польскай пісьменніцкай традыцыі і ў паўсядзённай мове. Падобнае абазначэнне прымае гэты выраз у многіх іншых мовах. І я скажу нават больш: фраза «ў Беларусі», як і фраза «ва Украіне», гучыць непрыемна, штучна і нават мегаламанска для майго польскага вуха. Я не згодны з такімі неалагізмамі. Я быў «на Беларусі», а не «ў Беларусі!» Што не зменяе майго захаплення беларускімі пратэстоўцамі! У любым выпадку, — працягваў ён, — навошта мяняць граматыку, якая стала пастаяннай у свядомасці многіх пакаленняў і матывуецца гістарычнай логікай? Новая граматыка не зменіць гісторыі. — Сапраўды, — я пагадзіўся з ім, — адна толькі граматыка нічога не зменіць, але можа шмат што змяніць у нашым успрыманні Беларусі і сутнасці беларушчыны. Звярні ўвагу, што ў цэню нашых адносін з беларусамі распаўзаюцца таксічныя плесні польскай напышлівасці... — Бздуры кажаш! — гыркнуў сябар. Я ўжо меў на яго абразіцца, але прыгадаў пэўнае псіхалагічнае правіла: «Тое, што і як ты кажаш, уплывае на тое, што і як ты думаеш, а гэта ў сваю чаргу ўплывае на тое, што і як робіш». На гэта мой сябар, не столькі захоплены размовай, колькі здзіўлены нечаканым змяненнем маштабу праблемы, якую мы стыхійна абмяркоўвалі, адказаў з лёгкім сарказмам: — Аказваецца, наша дыскусія не столькі філалагічная, колькі філасофская. І таксама, пэўным чынам, палітычная. На табе!

У святле няўмольнага супраціву грамадства злачынным уладам Аляксандра Лукашэнкі лінгвістычная праблема, ці пісаць пра драматычныя падзеі «на Беларусі» ці «ў Беларусі», выглядае недарэчнай ці нават непрыстойнай. Людзі, якія пратэстуюць, гінуць — на шчасце, гэта ўсё яшчэ асобныя выпадкі. Тым не менш, фізічны гвалт, садысцкія збіванні дубінкамі і сляпы тэрор абмежавання асабістых свабод — на парадку дня. Можа быццам усё роўна, ці так у сучаснай Еўропе адбываецца «на» ці «ў» Беларусі. Але толькі на першы погляд. Насупраак усяму гэтая граматычная тонкасць важная длянацыянальнай аўтаноміі беларусаў. Нездарма кажуць, што беларуская грамадзянская ідэнтычнасць зараз фарміруецца на вуліцах гарадоў. Пажылыя і маладыя, жанчыны і мужчыны пратэстуюць супраць аўтарытарнага кіравання Лукашэнкі — усё грамадства. Асноўны яго пастулат — права на свабоду, а значыць, і права на самавызначэнне. Гэтая суб'ектыўная грамадзянская ўласнасць была адабрана ў іх рэжымам Лукашэнкі. Вось што тычыцца гэтых пратэстаў адносна вяртання суб'ектыўнасці і ідэнтычнасці. Таму няважна, адбываецца беларускае Адраджэнне «ў Беларусі» ці «на Беларусі». Наколькі гэтую сэнсавую праблему заўважаюць самі беларусы — я не ведаю. У любым выпадку, гэта абмяркоўваецца ў Польшчы ўжо нейкі час. Таксама ў Нямеччыне. Апошнія нават лічаць правільнай назву краіны „Belarus". Да гэтага часу не было выразнага падзелу на Русь і Расію па-нямецку — абодва тэрміны былі накладзены як «russisch». У нямецкіх СМІ Беларусь звалі Белай Руссю (Weißrussland), у Галандыі Wit-Russland, а ў Швецыі Vitryssland. Для звычайнага немца беларус быў рускім. Але беларус — гэта не сінонім, а асобная нацыянальная катэгорыя. Гэта людзі, якія думаюць і адчуваюць па-беларуску, а не па-руску. І гэта зразумелі ў Нямеччыне. Быў усталяваны новы прыметнік «belarusisch» — «беларускі», з адным s'. Ці важна тое s' для беларусаў? Надзвычай важнае. Фелікс Акерман, малады нямецкі культуролаг, гісторык, палітолаг і беларусіст, які ў цяперашні час жыве ў Польшчы, адзначыў, што беларускае грамадства «мае права ўспрымацца ў Нямеччыне [і не толькі там] як гістарычная тэма, а не як частка гістарычнай Расіі». Я думаю, што гэтага права, якое забараняе ім дыктатура Лукашэнкі, патрабуюць беларусы. На вуліцах, бо яны не прадстаўлены ў беларускім парламенце. Магчыма, неўзабаве здарыцца так, што польскае вуха скруціцца, як кветка мімозы, пачуўшы, што «ў Беларусі» дыктатура Лукашэнкі ўпала. А польскае сэрца адкрыецца для «ў Беларусі» прыязна і партнёрска. І вуха прывыкне. У рэшце рэшт, што тут яно мае сказаць? Вуха мае слухаць.

**Міраслаў ГРЫКА**

# У беларусаў ёсць толькі дарога наперад!

(працяг з 37 н-ра)

— Ці зараз Беларусь губляе сваю незалежнасць, ці наадварот, яна становіцца незалежнай краінай? — спытаў у Паўла Латушкі Яўген Вапа на сустрэчы на Радыё Рацыя.

Хоць адназначны адказ не прагучаў, госць патлумачыў, што ўсе дамовы, якія падпіша Лукашэнка з Федэрацыяй Расіі, не спрацуюць у юрыдычным сэнсе. І ці захоча Расія ў такой атмасферы несці збройную дапамогу Лукашэнку? Увесь свет бачыць, як супраць яго фальсіфікацыям паўстаў народ Беларусі. Супраціў відавочны не толькі на вуліцах гарадоў, ён ва ўстановах, на прадпрыемствах, нават у вёсках людзі збунтаваліся. Лукашэнка пакуль не разумее свайго пройгрышу. Ён гатовы знішчаць свой народ, каб толькі застацца пры ўладзе. «А праўда такая — ён непатрэбны ўжо нікому. Я ўпэўнены, — адзначыў госць, — што ў Маскве маюць на яго месца ўжо двух-тры прозвішчы».




— Лёс незалежнасці краіны зараз вырашаецца на вуліцах гарадоў, — гаварыў Латушка, — людзі аб'ядналіся і няма ў іх ужо страху. Нарадзілася нацыя і гэтага ўжо не спыніць.

Лукашэнка цягам апошніх дзён паўтарае адны памылкі, якія яшчэ больш насцярожваюць грамадства супраць яго самога. Як лагічна патлумачыць забарону ўезду арцыбіскупу Кандрусевічу ў Рэспубліку Беларусь? Каталікі гэта прыблізна пятнаццаць адсоткаў грамадства. Яны не разумеюць такіх рашэнняў, ды ніхто гэтага не разумее. Няма тут ніякай палітычнай стратэгіі і ніякага сэнсу.

***

На абуджаную, пратэстуючую Беларусь глядзіць увесь свет і часта не верыць у тое, што бачыць. Нішто не сыходзіцца з прынятымі схемамі. «Там дзеюцца рэчы, якія не маюць права здзейсніцца», — пішуць назіральнікі. Гэта пра адсутнасць законаў, пра гвалт, які сілавікі ўзурпатара прымяняюць супраць мірных пратэстоўцаў. Да таго ж тыя пратэстоўцы такія прыгожыя, годныя, светлыя — як ідэя годнага чалавека. Як гэта магчыма ў XXI стагоддзі? — здзіўляюцца яны. Праўда, для саміх беларусаў той здзек і насілле не навіна. Многія звыкліся з рэжымам і адначасова яго зненавідзелі. Калі два гады таму ў Камянцы я спытала ў пажылога мужчыны ці ёсць у іх апазіцыя, той адказаў без энтузіязму: цэлы Камянец — апазіцыя! Людзі не даравалі ўжо ні дыктатару, ні сабе... Яны ж самі абралі на свае галовы такога, што падмануў, здушыў і адабраў надзею. А зараз, як паўтараюць адзін за адным, цярпенне стаміла... Няма ўжо звароту да таго, што ўжо было. Дзякуючы сацсеткам і жывым трансляцыям у СМІ, не трэба ехаць на барыкады, каб адчуць атмасферу і дух змагання.


www.racyja.com

Штодзённыя падзеі ў Мінску ці Гародні настолькі зачароўваюць і адначасова палохаюць, што блякнуць пры іх штодзённыя праблемы і навіны. Я сама гвалтоўна палюбіла Сербію, якая адказалася ад удзелу ў расейска-беларускіх манеўрах.



www.racyja.com

— Я не думаю, што войскі выступіць супраць свайго народа, — гаварыў на Радыё Рацыя Павел Латушка. — Яны могуць ездзіць сваімі бэтээрамі па горадзе, але гэта яшчэ нічога не значыць. У арміі служаць людзі, якія блізка звязаны з пратэстуючымі на вуліцах. Таксама кіруючыя арміяй паказваюць сваю дыстанцыю да апошніх падзей.

Тое, як будзе выглядаць барацьба салдат з народам, высветліў сам Лукашэнка. Калі ён пачаў грэзіць страйкуючым студэнтам, арміяй, інтэрнаўты шчыра яго падтрымлівалі. Або лепш, пісалі яны — няхай ён раздасць зброю проста ў рукі пратэстоўцаў на вуліцы.

***

У госця Радыё Рацыя спыталі пра нацыянальную сімволіку, якая стала знакам свабоды і надзеі на змены. Працэс пайшоў настолькі дынамічна, што ажно не верыцца. У паасобных гарадах быццам змагаліся на велічыню сцяга, пры чым стаметровая яго даўжыня зрабілася нормай. Бел-чырвона-белы колер загасціў на блоках-хмарачосах, на гарадскіх дворыках, дзіцячых пляцоўках, у сферы моды і нават у гастраноміі. Глядзіш і проста не верыш, што ўсё адбылося так імгненна і спантанна. Чырвона-зялёны сцяг зараз атаясамліваюць з няслаўнымі аўтазакамі, то-бок жалезнымі буданамі на калёсах, куды кідаюць людзей з хапуна.

— З сімволікай усё ясна, — гаварыў Павел Латушка. — Пра яе выказалася сама вуліца, без ніякага загаду. Можна сказаць, што ў гэтай справе адбыўся агульнанацыянальны рэферэндум. Гэтага таксама ўжо не спыніць і не адвярнуць.

Рэвалюцыя мае таксама ўжо сваіх герояў. Адной з іх з'яўляецца Марыя Калеснікава з Каардынацыйнай рады, якая нягледзячы на пагрозы з боку рэжыму, адмовілася ў выездзе з Беларусі. Каб пазбегчы сілавога выдварэння з Беларусі, яна парвала свой пашпарт на беларуска-ўкраінскай мяжы. У Беларусі ўжо размалявалі яе партрэты ў дворыках.

Рэвалюцыя ў Беларусі падняла самаацэнку і патрыятычны настрой сярод нашай меншасці. Пад уплывам хвальбы і прызнання, якая плыве з усяго свету, многія з іх аднавілі свае сувязі з духовай бацькаўшчынай. Я сама іначай глянула на творчасць Уладзіміра Караткевіча, які да гэтай пары здаваўся чыстым рамантыкам і ідэалістам. Але 23 жніўня, калі я ў эмоцыях глядзела мірны марш у Мінску, я адчула сябе так, быццам апынулася ў сярэдзіне кніжак Караткевіча. Гэты марш быў настолькі прыгожым, што ад усяго хацелася плакаць. Тады прыйшло разуменне, што Караткевіч добра ведаў беларусаў. Беларусы такія! Іх, як Пагоню, не разбіць, не дагнаць... Нацыі, нягледзячы на ўсе супрацьстаянні і здзек, немагчыма знішчыць.

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## Без указальнікаў

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета пабудавалі асфальтавую дарогу да перавалачна-складскога тэрмінала суполкі з абмежаванай адказнасцю „Аіда” ў Семяноўцы. Да тэрмінала бяжыць адна з дарог — між іншым гравійка з Новага Ляўкова паралельна да рэчкі Баброўка і ад ветрака пасярод шырокіх надрэчных лугоў налева і паралельна да жалезнай дарогі з Гайнаўкі ў Семяноўку. На скрыжаванні гравіек няма дарожных указальнікаў. Так мовіць, шукай ветру ў полі, у тым выпадку пасярод пакошаных лугоў. Даволі доўгі адрэзак дарогі, што не кажы, вядзе ж на Дзікі захад (так у нас называюць гэтую ваколіцу).

8 верасня гэтага года на ровары даехаў я гравійкамі да асфальтавай дарогі, якая вядзе да „Аіды”. На скрыжаванні дарог убачыў маленькую зялёную дошчачку з надпісам вялікімі літарамі „AIDA”, але яна паказвае напрамак... у лес, а там дарогі няма. Варта дадаць, што гэты тэрмінал далёка ад цэнтра вёскі Семяноўка. Дарога бяжыць цераз лес. Новую нядаўна пабудавалі.

І вось я ў незнаёмым лесе, але меў з сабою мабільнік і патэлефанаваў у Семяноўку, каб даведацца, як мне даехаць адсюль у Тарнопаль. Прыехаў на скрыжаванне асфальтавых дарог і тут указальнікаў няма. Дзе Тарнопаль? У які бок падацца? Каб трапіць у Тарнопаль, сказалі мне, трэба ехаць налева. Я быў тут упершыню. Колькі кіламетраў праехаў, не ведаю. Ну, думаю, ужо хопіць. Звездаў далейшую ад Новага Ляўкова ваколіцу, дарогі добрыя і вяртайся дадому. Стомлены не быў. Назад у родную вёску вярнуўся хутка. Ужо ўсё знаёмае. Цяпер жа дарогі ведаю. Калі каму спатрэбіцца ехаць сюдою да „Аіды”, я іншым дарогу пакажу. **(яц)**

## Дарожныя знакі

10 верасня гэтага года ехаў я на ровары са Старога Ляўкова ў Лешукі Нараўчанскай гміны. На гэтым адрэзку павятовай асфальтавай дарогі на абочыны зараслі кустоўем. У іх стаяць два дарожныя папераджальныя знакі. Па ўсім відаць, што тут не карчавалі равоў ужо шмат гадоў і кусты за гэты час вырaслі вялікія і ў шматлікіх месцах стаяць суцэльнай сцяной.

Тут небяспечна ехаць, бо невядома хто можа выскачыць з кустоў. Тут на дарозе з Лешукоў у Ляўкова быў смяротны выпадак. З-за кустоў з бакавой польнай дарогі выехалі на асфальт матавеласіпедыст з пасажыркай і трапілі пад аўтамабіль. Загінула тады жанчына.

Варта дадаць, што пры вышэйзгаданай дарозе доўгі час стаяць сухія тапалі і іх усё не сякуць. На абочыны дарогі падае з дрэў малое і вялікае сухое голле. Яго, хто едзе і бачыць ляжачае на маставой, адкідае ў роў і ўсё. Дрэвы да высечкі пазначаны, маюць нумары напісаныя чырвонай фарбай. Гэты допіс прапаную ўвазе дырэкцыі Павятовых дарог у Гайнаўцы. (яц)

## Дубы-веліканы

У Белавежскай пушчы растуць прыгожыя дубы. Ёсць сярод іх волаты ў некалькі тон вагі. Дубы-каралі цешаць нас сваёй спакойнай прысутнасцю, прыгажосцю і магутнасцю.

Прыгожыя дубы, у тым ліку і помнікі прыроды, знаходзяцца ў Гайнаўцы ды на тэрыторыі Нараўчанскай гміны. Дубровы варожаць вока каля вёсак Свінарої, Крыніца і Пераходы ды ў Гнільцы.

Прыгожыя дрэвы з гэтага шляхетнага віду ліставых можна ўбачыць каля царквы ў Нараўцы, каля Мінкоўкі ды пры дарозе, якая паралельна бяжыць побач чыгункі ў Плянце і пры ваяводскай дарозе № 687 (на яе павароце) таксама ў Плянце.

Шматвяковыя волаты знаходзяцца на тэрыторыі Гайнаўскай гміны, між іншым, каля вёсак Лазіцы, Ліпіны і Пасталова ды ў Нарваўскай гміне — каля Падбаравіска і Прыбудак. Многа іх у прыгожай Белавежы і ў г.зв. Старой Белавежы. Тут ёсць гістарычна-прыродазнаўчая сцежка „Шлях каралеўскіх дубоў”, заснаваная ў мінулым стагоддзі леснікам Яцкам Высмулкам. **(яц)**

# Няўдалыя арлянскія інвестыцыі (ч.2)

**Парваная традыцыя керамічнай вытворчасці**

Яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў у Орлі бурліла прамысловая дзейнасць, былі планы развіцця мястэчка і перспектывы працы ў ім. Орля традыцыйна славілася керамічнай вытворчасцю. У 1995 годзе спыніў працу мясцовы кафляны завод. У пачатку 1980-х гадоў тагачасныя гмінныя ўлады планавалі ўзвядзенне новай школы і... новага керамічнага завода. Але ў багатай у залежы высакаякаснай гліны Орлі гэтыя планы не здзейсніліся.

«Gazeta Białostocka» ад 1 лютага 1985 года так пісала: «(...) Postulowana przez orlan budowa zakładu ceramiki budowlanej — cała gmina na glinie stoi — może się odwlec z winy planistów ze stołecznego Cerprojektu. Mieli oni do lipca 1984 r. przygotować koncepcję programową, ale do dziś nie wywiązali się z zadania. Minister Kukuryka wyasygnował kredyt dla Orli, lecz wskutek opieszałości projektantów — obiecane pieniądze chyba trafią gdzie indziej. A szkoda, bo planowane na 1989 rok rozpoczęcie produkcji cegły czerwonej mogłoby pobudzić orlańską inicjatywę budowlaną. Wskazują na to choćby uchwały gminnej konferencji PZPR w 1983 roku. Jak mówi pierwszy sekretarz Komitetu Gminnego — Jan Kubajewski — postanowiono przełamać marazm inwestycyjny. Z inicjatywy partii podjęto ambitny program działania. Także w sferze budownictwa. Co się da — własnymi siłami, w czynie społecznym. Natomiast zadania poważniejsze — przy pomocy firm fachowych. (...)»

Хвалявалася арлянскае грамадства калі даведалася, што ў сакавіку 1992 года гміна, разлічваючы на прыватную ініцыятыву (?) прадала прадпрымальніку з Беластока 2,5-гектарны ўчастак (дзе раней была планавана будова адміністрацыйных і жылых блокаў) і артэзіянскую студню (якая мела стаць запасной крыніцай вады для мястэчка). Новы ўладальнік атрымаў звальненне ад падаткаў на пяць гадоў. Час праміна́ў, а той уладальнік нічога не рабіў; маўчала пра гэта і гміна. Пасля пяці гадоў у гміне нават немагчыма было даведацца ці той уладальнік плаціць нейкія падаткі. Аказалася, што той участак у выніку продажы з таргоў адышоў ад першага ўладальніка да судовага выканаўцы і да іншага ўладальніка.

Пра арлянскія залежы гліны звяртаўся я, як радны, з пісьмовым запытаннем да войта ў 2008 годзе. Адказы былі ўхілістыя («Ніва» ад 23.03.2008 г. «Багацці арлянскай зямлі»).

Паводле Студыі абумоўленасцей і напрамкаў прасторавага загаспадарання Арлянскай гміны з кастрычніка 2002 года — тут 2 253 тысячы кубаметраў залежаў гліны. Паводле неабавязковага плана плошча была акрэслена графічна на 35-40 гектараў.

Большасць грунтоў з залежамі гліны плошчаю ў 36,58 гектара з'яўляецца ўласнасцю Арлянскай гміны; паводле іншай крыніцы гміна не мае зямлі, а толькі Агенцтва і арандуе яе сельскагаспадарчаму кааператыву ў Крывятычах. Арэнда была ўстаноўлена 3 снежня 1976 года. Частка залежаў гліны знаходзіцца таксама на прыватных грунтах, у складзе якіх і ўчастак з глыбіннай студняй. Арлянская гміна не вядзе ўліку грунтоў і такім чынам не мае даных наконт уласнасці фізічных асоб і карыстальнікаў еўрасаюзных даплат.

У народзе таксама гаворыцца, і таксама паводле неафіцыйных крыніц — свайго часу Агенцтва надзяліла вялікі абшар поля, дзесь каля Крывятыч, Арлянскаму праваслаўнаму прыходу; арандаваў тое сельскагаспадарчы кааператыў у Крывятычах.

**Вадаём у Орлі, якога няма**

Адным з найпрыгажэйшых месцаў Арлянскай гміны з'яўляецца даліна ракі Арлянкі. Над Арлянкай за Орляй з боку Рудутаў, вясною — пасля снежнай зімы — абшырна залівае вада, быццам просіцца, каб узнік там сапраўдны вадаём. Грунт там таксама найбольш аптымальны. І найважнейшае — да гэтага месца вада ў рацэ не надта забруджаная.

На тэрыторыі Арлянскай гміны няма цяпер ніякіх турыстычных аб'ектаў (гатэляў, матэляў, заязных дамоў, бівакоў і г. д.; у 2020 годзе ўладальнік банкетнай залы «Маэстра» адкрыў у Орлі новазбудаваны гатэль для прынагодных гасцей). Няма таксама зарэгістраваных агратурыстычных гаспадарак. Хаця прырода тут чыстая, гміна не карыстаецца гэтым для свайго развіцця. Суседнія гміны — Дубіцкая і Кляшчэлеўская — чэрпаюць прыбыткі ад пабудаваных на сваіх тэрыторыях вадаёмаў і турыстычных асяродкаў. Шанс на такія ж карысці заўважаюць войты — ужо традыцыйна — пры нагодзе самаўрадавых выбараў, а потым усё ціхне. А стрыжнем развіцця мясцовага турызму можа быць менавіта рака Арлянка, якая цячэ па тэрыторыі гміны і цераз самую Орлю; яе даўжыня 50,3 кіламетра.

Нагляд за чысцінёю Арлянкі вядзе Ваяводскі інспектарат аховы асяроддзя ў Беластоку з трохгадовай цыклічнасцю, а ў Храбалах — перад уліцём у Нарву — штогадова. Стан ракі ў 2001 годзе, у параўнанні з папярэднімі даследаваннямі, пагоршыўся. Галоўнымі крыніцамі забруджвання Арлянкі з'яўляюцца «Млекавіта-Бельмлек» і камунальная ачышчальня сцёкаў у Бельску-Падляшскім ды гмінная ачышчальня ў Орлі. Рака трымае нормы другога класа толькі на дзевятнаццацікіламетровым адрэзку ад вытокаў да самой Орлі (тут можна пабачыць печкуроў, плотак...); ніжэй — трэці клас і горшы (вада нязда́тная для бытавання рыб і там я рыб не бачыў).

Аб планаванай пабудове вадаёма на Арлянцы за Орляй з боку Рудутаў упершыню пачуў я пагалоскі ад жыхароў недзе ў 1970-х гадах. Але тады я вучыўся па-за Орляй, а потым было войска. І неўзабаве даведаўся ад людзей, што вадаём быў бы, але здзяйсненню супрацівіліся два земляробы, якія не захацелі прадаць сваіх участкаў. Да новых ініцыятыў людзі ставіліся з насцярожанасцю і непрыязна. Такім чынам вадаём паўстаў не ў Орлі, а ў Дубічах-Царкоўных.

Тых людзей, якія не згаджаліся, ужо няма ў жывых, але ў Орлі некаторыя добра памятаюць як гэта адбывалася, хто клаўся пад колы машын; гэта тэма на асобны артыкул...

Цяперашні войт у сваёй выбарчай праграме таксама абяцаў, што зоймецца пабудовай вадаёма. Справа складаная, можа зацягнуцца, але ён геадэзіст і ведае як гэта зрабіць; справа ў тым, што зараз не вельмі вядома, хто з жыхароў меў даўней участкі на супольнасці (зараз пашы, на якой ужо растуць самасейныя дрэвы).

Мне нядаўна ўдалося спытаць войта Лявона Паўлючука. Сказаў, што вадаёма за Орляй не будзе, бо аказаўся адзін, які хоча ад гміны грошай або паю, а па сутнасці то невядома, ці хто з ягонай сям'і меў калі там свой участак і г.д.

Паводле войта іншым выхадам была б будова малога вадаёма ў самой Орлі каля г.зв. Старога саду (такую ідэю меў некалькі гадоў таму солтыс Марк Хмялеўскі, але тадышні войт не заняўся справай). Там участкі гмінныя. А ваду трэба было б давесці з ракі каля заставы, значыць перад ачышчальняй сцёкаў. І там чарназём...

Думаю, што гэта складаная справа, бо там таксама ёсць прыватныя ўчасткі (каля заставы). Пытаў я радных, але на сесіі не разглядалася гэтая тэма.

Я, як жыхар Орлі, мяркую, што зараз вадаёма ў Орлі ці перад Орляй не будзе. Але ў будучыні, калі адыдзе яшчэ адно пакаленне, маладыя інакш глянуць на развіццё сваёй Орлі, людзі стануць больш узаемна зычлівымі — тады вадаём у рэшце рэшт тут будзе.

Апрацаваў і запісаў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# У Палічнай творыцца гісторыя

10 верасня ў Палічнай, што ў парафіі Вэрсток, асвяцілі царкоўку ў гонар святамучаніка Георгія. Царква, калі глядзець на тэмп пабудовы, вырасла быццам грыбы пасля дажджу. Здаецца, толькі ўчора — бо 5 ліпеня — тут заклалі краевугольны камень. Той камень быў прывезены з сяла Андрэеўскае ў Туркменістане, дзе магіла святога. Задума літаральна здзейснілася цягам двух месяцаў, неверагодна хутка як на нашы меркі. Усё дзякуючы энергіі бацюшкі і прыватным спонсарам — Іаанне і Тамашу Дамброўскім.

— Мы — удзельнікі гістарычнай падзеі, — гаварыў мітрапаліт Сава. — Хто з нас раней падумаў, што ў Палічну прыедуць мітрапаліт, епіскапы і столькі духавенства, што будзем маліцца да святога з вашай вёскі, прасіць у яго дапамогі...

Жыхары вёскі самі паўтаралі, што не бачылі ўжывую столькі духавенства.

— Колькі жыву, то не бачыла *празніка*, — гаварыла 87-гадовая Ганна. — Яшчэ ў нас не было такога, каб я не палічыла ўсіх прыезджых бацюшкаў...

Словы старажылкі, не проста словы. У народзе па колькасці бацюшкаў вызначаюць прэстыж свята. У Палічну прыехаў сам мітрапаліт Сава, архіепіскап Грыгорый, епіскапы Павел і Варсанофій ды сотня бацюшкаў. Шматлюдная прысутнасць святароў не была выпадковай, — святы Георгій з Палічнай — апякун духавенства.

А сам культ і вяртанне памяці св. Георгія (Сцепанюка) на радзіму прынеслі ўжо відавочныя змены. Яшчэ адносна нядаўна, беручы пад увагу пясчаныя палеткі, царкву ў Вэрстоку лічылі «карнай» парафіяй. Сёння вэрстоцкая царква аднавілася і рассвятлілася як каралева. І не ідзе пра адзін рамонт і ўзорны парадак вакол царквы. 10 верасня запамяталася мне праз ветлівасць і адкрытасць вясковых людзей, якія цешыліся святам і самі сабой.

Сам мітрапаліт пахваліў маладога настаяцеля Паўла Кучынскага:

— Я тебе благодарю, хвалю... но ты не гордися!

Паколькі культ св. Георгія з Палічнай адкрыўся і набірае сілы, у епархіі пачаліся старанні, каб вярнуць на радзіму мошчы святога. Астанкі святара-пакутніка пакуль знаходзяцца ў брацкай магіле ў сяле Андрэеўскае, што ў далёкім Туркменістане.

***(гак)***

# «Аморфас» — краса веснавых мелодый









Адзін з нашых прыгажэйшых жаночых беларускіх калектываў, — пачуўшы такую заяўку адразу бачыцца і чуецца квет маладзіц і дзяўчат з Сямятыч, у павеўных белых сукенках з беларускімі ўзорамі, эсенцыю маладосці, нявіннасці, шчырасці і таленту. Калектыў працуе пад кіраўніцтвам адной са спявачак, былой настаўніцы, мастачкі, аніматаркі культуры, якая на сцэне мала адрозніваецца ад сваіх вучаніц — Алены Шчыгол. Яна і піша музыку да новых твораў, якіх так не хапае ў рэпертуары беларускіх ансамбляў Падляшша. Калектыў, як і сама спадарыня Алена — найлепшая і шчырая візітная картка беларускай і праваслаўнай Сямятыччыны, хаця выступаюць там не толькі беларускі. А спадарыня Алена Грахоўская-Шчыгол вядзе ў Сямятычах таксама мастацкую галерэю, а ў Мельніку (па вуліцы Бугавай, 11) — адчыніла галерэю «Скарбы з мельніцкага куфэрка». Брама адчынена — уступ вольны! — запрашае.

Запрасіла спадарыня Алена да святкавання дзесяцігоддзя свайго калектыву ў Сямятыцкі асяродак культуры 30 жніўня.

— «Аморфас» гэта вакальная фармацыя з васьмі дзяўчат, якая з'яўляецца мастацкай візітнай карткай нашых Сямятыч, — хваліцца дырэктарка САК Іаланта Марыя Сідаровіч. — Ён быў створаны ў 2010 годзе пры нашым асяродку культуры, які дазваляе творча развіваць яго культурны патэнцыял. Калектыў суарганізуе і падтрымлівае культурную прастору, інтэгруе асяроддзе, дае прыклад актыўнага ўдзелу ў жыцці горада. Гэтая артыстычная дынамічная група «Аморфас» выконвае рэпертуар, сягаючы ў фолькавыя, народныя і сакральныя традыцыі спеваў этнічна разнастайнага Сямятыцкага павета, а таксама выступае з сучаснымі творамі і папулярнай музыкай — гэта творы польскіх і беларускіх кампазітараў, арыгінальныя аранжыроўкі народных песень і ўласныя кампазіцыі. Рэпертуар гурта адлюстроўвае патрэбы нашага мультыкультурнага рэгіёна. Гурт «Аморфас» выступае на рэгіянальных фестывалях, музычных мерапрыемствах, культурных мерапрыемствах і святах, прымае ўдзел у музычных аглядах і конкурсах. Ён спявае ў невялікіх вёсках і мястэчках, але і ў вялікіх канцэртных залах, такіх як Падляшская опера і філармонія ў Беластоку, тэатры ці філармонія ў Мінску ў Беларусі. Прадстаўлялі нашых беларусаў, між іншым, на з'ездзе культуры беларусаў свету...

— А вось і нашы вінаўніцы свята, — Алена Шчыгол з гумарам і тэмпераментам вяла са сцэны САК юбілей, на які прыбыло шмат гледачоў, між іншым, святарства, дыпламаты, самаўрадаўцы з мэрам Сямятыч, сябры з беларускіх гуртоў (з падарункамі-спевамі ад «Сувеніра» Янкі Хохі, Андрэя Жамойды і Міраслава Алексейчука і «Вэрвачак» з Орлі). Не раз прагучалі на галасы («Сувенір» таксама спявае ў царкве) віншаванні і жаданні «многая лета».

І «вінаўніцы» юбілею выходзілі на сцэну са сваім канцэртам у розных строях — беларускіх і сучасных, у якіх — не схаваеш — выглядалі цудоўна. Усхвалялі Творцу (як гэта робяць у царкве і на фестывалях царкоўнай музыкі), і «малую айчыну, падляшскі наш край», якому пашчасціла мець такіх сваіх анёлаў, і красу жыцця — нездарма іх назва значыць «хараство». Спадарыня Алена, расказваючы аб жыццёвым шляху калектыву, падзякавала асабліва Іаланце Сідаровіч, бургамістру Пятру Сіняковічу і Беларускаму таварыству:

— Расслаўляем наш горад Сямятычы, дакладваемся сваім талентам да стварэння яго гісторыі. Здараецца нам спяваць у вялікіх гарадах, і на траве, і на вялікіх оперных сцэнах. У конкурсах займаем высокія месцы, а наш рэпертуар адлюстроўвае патрэбы асяроддзя. Маем народныя песні польскія і беларускія, але і царкоўную літургічную музыку... Спявалі мы на вялікіх сцэнах у Польшчы і за мяжой. З хваляваннем успамінаем вялікія тлумы нашых слухачоў у Мінску, у Александрыі пад Магілёвам, але і на... фестывалі пажарнай песні ў Вісле ў Бескідах. Ехалі мы туды чырвонай пажарнай машынай. Калі ехалі мы на ноч Купалы ў Белавежу, прыгатавалі на галовы свяціўшыеся вяночкі. І ў час выступу пагасла святло, выключыўся электраток. А на сцэне свяціліся толькі нашы вяночкі! На шчасце нашы мужы, якія добра ведаюць усе нашы песенькі, будучы дзесьці сярод гледачоў, хутка падхапілі спяваны намі твор і ўвялі настрой сапраўднага Купалля. Здаралася нам дабірацца на канцэрт транспартам, вось у Бельск, які ў дарозе нам загарэўся. І нашы крутыя мужыкі хутка арганізавалі нам транспарт; заехалі мы на самы канец канцэрта, але ж дабраліся! І заспявалі! Такіх прыгод і атракцыёнаў было нямала! Едзем мы на гала-канцэрт у Падляшскай філармоніі. На Дайлідах спыняе нас паліцыя. Аказваецца, у той дзень адбываецца матч «Ягелоніі» з «Легіяй». Лічаць, што гэта едуць заўзятары і кантралююць усе машыны. Бачым, што гэта доўгая справа. Просімся: пусціце нас хутчэй, мы едзем канцэртаваць! Не маглі паверыць, прыйшлося нашым дамам паказаць свае прыгожыя сукенкі. Тады паверылі, што маюць дачыненне з сапраўднымі артысткамі, якія едуць выступаць у Еўрапейскі цэнтр культуры!

Пачаўся канцэрт іхняй слаўнай песняй «Вясновыя мелодыі» (словы Людмілы Кебіч, музыка Марка Копа), галоўнай песняй з кружэлкі «Аморфаса» «Ой пайду я на даліну» (2019). Спяваюць на ёй Іаанна Давідзюк, Эва Гаевіч, Кацярына Кахаоўская, Кацярына Ляшук, Івона Пышко, Кацярына Верэмяевіч. Музычную апрацоўку песень правяла мастацкі кіраўнік Алена Шчыгол. Запісваў вядомы майстар Марк Зрайкоўскі. Спансаравалі дыск Культурны цэнтр Беларусі, бургамістр горада Сямятычы і Камунальнае прадпрыемства ў Сямятычах і фірма LARECO. На дыску (набыць яго можна м.інш. у рэдакцыі «Нівы» вядомыя песні «Ой пайду я на даліну», «Ягада каліна», «Ехалі казакі», «Жаўраночка», «Ой сівы конь бяжыць», «Дзяўчына сэрдэнька», «Зорная ночка», «Не шукай ты мяне», «Кукавала зязюленька», «Што ты ягада каліна», а таксама песні на музыку гарадзенца Марка Копа «Знать судьба моя», «Запрашаю ў вёску» і ўспомненыя «Веснавыя мелодыі», «Запрашаю ў вёску» Славаміра Трафімюка, і «Малая айчына» М. Лукшы і А. Шчыгол.

Разгайдаліся травы, шумяць рэчка і гай.
Гэта наша айчына, гэта наш родны край.
Вольна дыхаеш ветрам, пахне дым з камінóў.
Чуеш свойскую песню, чуеш гук родных слоў.

*Прыпеў:*
*Малая айчына, падляшскі мой край,*
*Мяне ты таксама не забывай.*
*Сюды я вярнуся з далёкіх дарог,*
*Пасля паражэнняў, пасля перамог.*

Мы сустрэнемся сёння, зойдзем разам у цень,
Успамінаў не скончым і за ноч і за дзень.
Вып'ем чарку гарэлкі і сяброў памянем,
Пасівелых сябровак танцаваць павядзем.

Маладыя хай бачаць — мы яшчэ на хадзе,
З маладым пакаленнем роўным крокам ідзем.
Дык трымаймася разам і пільнуйма сваё,
Не прапала каб наша, з ветрам не паплыло!

Гэтая вельмі часта наводзіць на слухачоў хваляванне і нават выклікае слязу ў вачах. «Праўду спяваюць! — на апошнім фэсце беларускай культуры пажылы дзядзька заплакаў, калі спяваў «Аморфас». — Пра нас спяваюць»!

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Сэрца Веранікі і патрыятычная азбука

На такія падарункі ад дзяцей бацькі і не чакаюць! Ну, можа нехта зладзіць бел-чырвона-белы сюрпрыз пад 25 Сакавіка.

— А прачынаюся раніцай і бачу гэта... — кажа ўзрушаная Іаанна Марко, настаўніца беларускай мовы з Беластока. — Я проста ўзрушылася. Дзеці ўсё разумеюць. Яны перажываюць, як і іх бацькі. Б'ецца адно сэрца.

Пра які сюрпрыз ад сэрца тут мова?

Спадарыня Іаанна на начным століку, побач ложка, пабачыла малюнак. На ім хатка асветленая ўзыходзячым сонцам, бел-чырвона-белы сцяг і вялікае сэрцайка. Усё тут павязанае чырвонай ніткай.

Малюнак нарысавала шасцігадовая Вераніка, якой сэрцайка праз родны дом павязанае з Беларуссю. У апошнія дні і тыдні людзі шмат гавораць і перажываюць за Беларусь. І гэта не толькі ў беларускіх сем'ях. Падобныя прызнанні для годнай Беларусі гучаць па ўсім свеце. Таксама 13 верасня шмат дзяцей спявала і хадзіла пад гукі «Купалінкі» ў карагодах на рынку ля Ратушы ў Беластоку. З высі ратушы лунаў бел-чырвона-белы сцяг. **(гак)**





Вучні з бельскай «тройкі»

# Янотавы Абяцанкі

Бег янот да лісы ў госці, аж бачыць: на палянцы козачка сена сушыць. Павітаўся з ёй ды кажа:

— Во разумніца! Хто дбае, той і мае.

Козачка грабелькі паклала, яноту ўсміхнулася.

— А як жа, — сказала. — Трэба нахіліцца, каб з ручая напіцца. Толькі вунь хмаркі па небе паплылі. Баюся, каб дождж не пайшоў.

— Ага, праўду кажаш, каза. Адкаму дарожка торна, ды не спорна. Толькі ты не хвалюйся. Вось адведаю лісу і да цябе вярнуся, дапамагу сена да ладу давесці.

Сказаў так янот і далей пабег.

На ўзгорку, сярод узлеску, янот барсука сустрэў. Барсук нару капаў. Так стараецца, бедны, што ажно ўвапрэў увесь. Падышоў янот бліжэй да барсука і пытае:

— Скажы, чаго так спяшаешся? Як усё роўна цябе хто ў карак гоніць.

— Ат, браток, і не пытайся, — кажа барсук. — Як топішся, то і за саломку ўхопішся. Гэта ж дзе я раней жыў, ваўкі, каб іх узяло ды не адпусціла, логава сабе аблюбавалі. Ледзьве ўратаваўся. Цяпер во, пакуль даждыжы пойдуць, стараюся які прытулак займець.

— Калі ты гэтую нару і выкапаеш? Адзін, як калок у плоце, — спачувае янот.

— Нічога не зробіш... Як-небудзь упраўлюся, — сказаў барсук і зноў за работу прыняўся.

— Так і быць! — падахвоціўся янот. — Пасля абеду ўдвух будзем нару капаць. Дапамагу я табе.

Барсук, пачуўшы такое, ажно падскочыў ад радасці.

— Дзякуй, браток. Не спазніся толькі, чакаю, значыць, цябе.

— Абавязкова чакай. У гурце нішто не страшна. Будзе табе, барсук, нара.

— Яно вядома, — пагадзіўся барсук. — Адна галава — добра, а дзве — лепш.

Мінуў янот узлесак і на палянцы садок убачыў. А яблыкаў у тым садку, што зорак на небе. Галінкі да зямлі гнуцца. Каля адной яблынькі вавёрачка завіхаецца. Асцярожненька сарве з галінкі чырванабокі яблычак і ў кошык яго пакладзе.

— Які файны садок у цябе! — хваліць янот вавёрачку.

— Ага, добры садок! — радуецца гаспадынька. — Садок летам, што кажух зімою. Бачыш, колькі яблыкаў нарасло!

— Бачу, бачу, вавёрачка! Такі садок кожны б хацеў мець.

— Станавіся пад яблыньку і дапамагай мне, а то я да самай восені не спраўлюся, — просіць вавёрачка.

— Праўду кажаш, сястрыца. Аднымі рукамі нямнога зробіш. Чакай мяне. Я мігам вярнуся.

Сказаў так янот і да лісы пабег.

Ліса бліноў напякла, кураціны насмажыла. Адным словам, сустрэла янота як самага дарагога госця. Еш — хоць распеляжыся. Сядзяць сабе, балююць, адно аднаму небыліцы расказваюць.

Ужо сцямнела, неба жаўтлявыя зоркі ўсыпалі, а янот і не думае дамоў збірацца. Пра козачку і барсука з вавёрачкай зусім забыўся.

Вось тут, дзеткі, і казачцы канец.

*Іван Галубовіч*

## УВАГА КОНКУРС! № 38-20

Стаіць на гары,
крыламі махае,
супраць ветру
грудзі падстаўляе.
В.....
(з народнага)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 28 верасня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 34: верабейка. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Эва Петрышык і Дыяна Іванюк. Віншуем!ы

*Якуб Колас*

## Белыя валокны

Белыя валокны
Сцелюцца над долам.
Не спяваюць птушкі,
Сціхнуў лесу шолах,
Замірае лета,
Заціхаюць далі.
Сірацее рэчка,
Халадзеюць хвалі.
У бязмежным небе
Роўненькім шнурочкам
Жураўлі на вырай
Мкнуцца над лясочкам

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Груша** — гэтае дрэва вельмі шанавалі і славілі нашы продкі. Грушу забаранялася ссякаць. Людзі верылі, што на ёй адпачывае Божая Маці, калі сыходзіць з неба на зямлю.

У пасёлку Жыровічы, дзе славутая Лаўра, захавалася легенда пра тое, што ў 1470 годзе менавіта на грушы дзеці-пастушкі ўбачылі Іконку Божай Маці, вядомай сёння як Жыровіцкая. Культ іконы важны для жыхароў Падляшша, у многіх цэрквах і хатах сустрэнем іконы з легендай святога месца.

Захавалася таксама легенда пра грушу каля каменя ў вёсцы Збляны на Лідчыне. Тут сустрэліся два вяселлі: тое, што атрымала шлюб у царкве і вярталася ўжо дадому, і тое, што ехала да вянца. А раней дарога была вузенькай-вузенькай. Заўсёды нехта быў вымушаны ўступіць, даць дарогу. І вось маладажоны, якія ехалі ў царкву, не саступілі дарогі павянчаным і паблагаслаўлёным. Бог не надта хацеў разбірацца ў справе і замяніў усіх удзельнікаў у вялікі камень. Адзін конік меў шчасце — яго Усявышні ператварыў у грушу. Ён належаў павянчанаму вяселлю.

На Палессі на грушу кідалі вянкі, каб загнаць туды русалку. З прыходам і ўмацаваннем хрысціянства старыя грушы з дуплом пачалі заўзята высякаць. Іх лічылі прытулкам нячыстай сілы. Яны спараджалі нерэальнае, няшчаснае каханне. У народзе ёсць нават прымаўка пра такое каханне: *Залюбіўся як чорт у старую грушу!*

Нашы продкі верылі, што плады і галінкі грушы валодаюць жыватворнай сілай. Грушавы напітак давалі жанчыне, каб яна зацяжарыла, састарэлай дзеўцы раілі з'есці грушу, якая найдаўжэй вісела на дрэве, што мела паспрыяць яе замужжу.

Таксама ў некаторых вёсках казалі пра немаўля: «Упала з грушы!»

У фальклоры вобраз грушы-дзічкі прамаўляе як сімвал сірочай горкай долі. Груша падказвае ёй дарогу і дае суцяшэнне і надзею. На такім уяўленні пабудаваны культ ва ўрочышчы Грушка, што на Брэстчыне (папраўдзе, гэта непадалёк нашай Чаромхі). Да Грушкі і сёння тлумна прыязджаюць жанчыны і дзяўчаты з малітвай за шчаслівы замуж і нараджэнне дзяцей. Хоць на святым месцы стаіць капліца, усе ідуць пакланіцца святому дрэву. Каб задобрыць грушу, людзі вешаюць на галінкі каляровыя ленты і астаўляюць ёй цукеркі. Пра гэта мы пісалі ў «Ніве». Што цікава, людзі, якія жывуць навокал таго месца, маюць многа сваякоў на Падляшшы, асабліва ў Гайнаўцы.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

*Грэта Тамаля, ПШ у Міхалове*

## Восень

Ідзе восень, кароткія дні нясе,
Халодныя і цёмныя ночы вядзе,
Усе маюць сапляк пад носам,
Бо лёгка апранутыя
Як летам, лёталі.
Лісце з дрэў сыплецца,
Навокал дываны каляровыя.
Вецер гоніць хмаркі,
А мы спяшаем у школу.

*Юстына Коркуз, ПШ у Міхалове*

## Вожык

Быў сабе вожык, яго звалі Дэптак.
Чаму? Ніхто не ведае.
Ён адзін таптаў – туды і там.
Яго цяжка было прытуліць
І яблыкам пачаставаць.


Фота Адама Паўлоўскага

# Памідоры фаршыраваныя
## (Памідоры крыпаныя)

Час на памідоры, пра якія будзем марыць у заснежаныя студзеньскія і лютаўскія адвячоркі. Чаму істотная тут паравіна года?

Для гэтай стравы падыходзяць адно свежыя памідоры выспелыя на сонечных градках у агародзе. Яны захоўваюць не толькі ўласцівы смак, але і форму памідора.

**Складнікі:**

*300 грам мяса,*
*1 морква,*
*1 цыбуліна,*
*30 грам кораня сельдэрэю,*
*100 грам зялёнага гарошку,*
*30 грам тлушчу,*
*100 грам смятаны,*
*перац, соль, базілік.*

Мяса прапусціць праз мясарубку, падсмажыць з соллю і перцам на тлушчы. Цыбулю, моркву і салеры дробна нарэзаць, пакласці ў рондаль, абліць тлушчам і тушыць да мяккасці. З памідораў выняць сярэдзінкі і пакласці іх у рондаль з зялёным гарошкам і карэннямі, патушыць яшчэ трохі і змяшаць з сечаным мясам. Усё разам тушыць яшчэ 15 хвілін.

Гэтым фаршам начыніць памідоры, пакласці іх у шырокі рондаль, уліць шклянку вады і тушыць пад накрыўкай 20 хвілін. Пад канец уліць смятану.

Гатовую страву пасыпаць базілікам.

Смачна есці (ад Юры Качука і яго «Беларускай кухні»)!

**(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 38-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 34-20:**

Кораб, зуб, раса, мат, рост, яд, маланка, певень, пачатак, пан, лаўка, сінь. Мяч, зад, пас, кут, пані, Об, меч, кава, ар, лета, баранак, Сонька, баск, тарпан.

Узнагароду, **беларускія літаркі на камп'ютарную клавіятуру,** выйграў **Габрысь Каролька.** Віншуем!



# Мясцовыя ўмельцы

(ч. 10)

Аднойчы прыехалі ў вёску паляўнічыя са стрэльбамі, каб трошкі здабыць дзічыны. А дзядзька Емяльян быў ахоўнікам звярынца ад браканьераў і гэта ён назначаў нагоншчыкаў. Пайшлі ў лес на паляванне і адзін паляўнічы-панок сваю сумачку з абедам даў аднаму нагоншчыку, каб ён яе насіў, бо яму ж нязручна. А ў час палявання час ад часу прыбягаў да нагоншчыка і адкрываў сваю сумачку і штосьць там лапне і на хаду з'есць. Але паляванне прадоўжылася і ён амаль забыў пра яе і так відаць думаў наш мужык-нагоншчык. А тут пры канцы палявання наш панок прыбягае да яго і да сумачкі, а там пуста. Нагоншчык толькі прамармытаў: «А я рэшту з'еў!..». Паляўнічы толькі пацiснуў плячыма і нічога не сказаў. І як ён мог ацаніць паводзіны нашых некаторых дзівакоў? Напэўна не найлепш, а параўнаць са свіннёю мог.

Аднойчы той самы Емяльян на Задах бліжа Карыцiск прыкмеціў у лесе расстаўленую пад дрэвам пятлю. «Ага, трэба прыпільнаваць», — так падумаў наш герой і дапільнаваў у адзін дзень браканьера з Карыцiск, які асцярожна падкраўся да гэтай пакручанай вяроўкі са стрэльбай-самапалам у руцэ. Ахоўнік да яго, а той ва ўцёкі, аж снег клубаваўся, і стральбу кінуў. А наш дзядзька яго дагнаў і адлупцаваў як трэба, і самапал забраў з сабою. На другі дзень браканьер прыйшоў да яго з гасцінцамі, каб той яго не падаў у суд. Емяльян яму даравау віну, але стрэльбы не аддаў, так я чуў; а мо аддаў? У яго сына Мікалая калісьці прыпомніў гэту гісторыю, а той мне адказаў: «Бацька мой быў дурны, бо падобная гісторыя адбылася больш-менш у той самы час: у адной прыпушчанскай вёсцы адзін яе жыхар таксама быў гэтым «лоўчым» (бо сапраўдным лоўчым не так лёгка было быць з нашых людзей, бо на гэта была патрэбна і грамата) і ў лесе на горача наткнуўся на браканьера, які ставіў пятлю на звярыну і хацеў яго «падвучыць» кулакамі, але той не разгубіўся і выставіў ствол сваёй стрэльбы на яго і па-руску выгукнуў «Стой, бо буду стрелять!» Але той не паслухаўся... і прагучаў стрэл і наш «лоўчы» цяжка ранены асунуўся на снег. Так магло здарыцца з вашым дзядзькам», — так закончыў свой расказ дзядзька Мікалай.

«Але думаю, ваш бацька Емяльян добра ацаніў сітуацыю, што да бяды не дойдзе і таму так паступіў», — так я адказаў Мікалаю.

У міжваенны час па нашых вёсках многа хадзіла беспрацоўных польскай нацыянальнасці і яны былі зарэгістраваны ў ведамстве працы, і ім польскі ўрад плаціў 2 злотых штодзённа. Але гэта было напэўна замала, каб пракарміць сям'ю і не толькі. Таму яны хадзілі і некаторыя з іх чынілі магічныя штучкі; гэта былі спрытныя ілюзіяністы — на іх далонях мог успыхнуць нават агонь і паказвалі нам мала зразумелыя навінкі. Да нашых людзей яны адносіліся не найгорш, хаця можа з нейкай пагардай і іроніяй. Бо яны ў большасці лічылі сябе патрыётамі і мелі на канец сваю вымараную здаўна незалежную Польшчу. І я думаю, што ад такіх людзей мы можам нечага навучыцца. Аднойчы такі беспрацоўны наведаў (солтыс прывёў) паважанага ўсімі дзядзьку Аляксея Корха ў мясцовасці Краскоўшчына, іначай Кархі. І гэтаму чалавеку далі паесці, што мелі, а таксама начлег. У час гутаркі дзядзька Аляксей спачувальна кажа яму: «Дык цяжка вам, беспрацоўным, жыць у гэтым вяку і ўсяго не хапае». Дык той яму адказаў, вядома, па-польску: «Panie, to nic nie znaczy, ale za to mamy ojczyznę». Аляксей яму адказаў па-беларуску: «Але мы, беларусы, маем свой хлеб, хаця цяжкі». Так, мы мелі свой хлеб і нават трохі да хлеба (бо толькі адно свінчо калолі на год і ўжо, лічыць, не галадалі, хаця скромна ўсё гэта выглядала), так цяжка здабыты хлеб, кожная крышынка дорага цанілася. Гэта не сёння, калі пры яго пакупцы чуваць крытычныя заўвагі і намёкі наконт яго. Распанелі надта. І памятаю, калі я быў малы, чамусьці брыдка назваў хлеб спечаны мамай. Дык бацькі абурыліся і бацька, у той час камуніст, кажа: «А ты не ведаеш, што хлеб гэта Божы дар? Мы не такі хлеб елі, калі варочаліся з бежанства і ўжо на месцы, калі нічога не было яшчэ, хлеб з жалудамі быў прысмакам і нікому нічога не сталася», — так закончыў сваю аповесць мой бацька. І хачу адзначыць і тое, што мая маці амаль з маленства была сіратой, аднак хлеб пекла вельмі смачны, як і кожную ежу. Ёй не былі патрэбны падручнікі на гэта, бо і чытаць ды пісаць яна не ўмела, але кожная наша жанчына мела прыроджаны, здабыты мо ў горы талент, дар, як гэта трэба пячы, варыць, гатовіць і часта з прысмакамі смачную ежу для сям'і. І мо мы беларусы ў гэтай галіне стаім у авангардзе, таксама і ў гасціннасці і гэтых беспрацоўных прымалі як родных, і ніколі не было адмовы з нашага боку. Нашы людзі многа навучыліся ў час гаротнага бежанства; рускія таксама віталі іх як родных. Гора і бяда мо з'ядноўваюць людзей найбольш, як у адну дружную сям'ю. А зноў мы славяне. І хачу сказаць і тое, мо і смешнае, аднак гэта трымаецца сваёй рацыі і слушнасці. Жаночы пол славян найпрыгажэйшы ў свеце, як палячкі, беларускі, украінкі, расіянкі... Ніхто з імі не зраўняецца, а калі так, дык яны і найразумнейшыя. Варта аб гэтым падумаць. Прыпомніліся мне словы Арцёма Чыквіна, які мне калісьці сказаў: «Коля, трымайся як найдалей ад гарэлкі і рознай выпіўкі, бо жонка гэта найбольшы ў свеце скарб». І гэтых слоў я ніколі не забуду, бо яны для мяне свайго роду запавет. Так, Бог даў нашым славянкам прыгажосць, статнасць і розум. І можам гэтым ганарыцца. Ну, і мы, мужчыны, не горшыя ў нічым ад нейкіх немцаў, англічан, амерыканцаў... А мо і перавышаем іх сваёй дабрачыннасцю. І ёсць адна вельмі разумная наша пагаворка: «Мудрая жонка трымае тры вуглы ў сваёй хаце, а мужык толькі адзін». І гэта праўда, і гэты прыклад бяру ад сябе.



Цяперашні прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Дональд Трамп дацаніў прыгажосць, адданасць, вернасць славянак, бо гадоў 10 таму ажаніўся з такою — яна сама са Славеніі, колішняй рэспублікі Югаславіі. І думаю, ён ніколі з ёю не развядзецца, бо яна можа быць міс прыгажосці ў сваёй новавыбранай краіне — ЗША. І думаю, што да славян ён будзе ставіцца з сімпатыяй і пашанай, і зноў час пакажа.

Хочацца яшчэ прыпомніць, што нашы людзі цанілі ўсялякую музыку, як і песні рознага характару, як фальклорныя (напрыклад рагулькі), вясельныя, хрысціянныя, сабой выдуманыя, а радзей салёныя. Пасля ад саветаў навучыліся рэвалюцыйна-ваенных песень. Наш паэт Андрэй Тамашук, які загінуў у 1923 годзе, паспеў скласці шмат вершаў (больш з іх у памяці даўно загінула, кажуць, быў сшытак з імі, але прапаў). І некаторых нашых «слаўных» гаспадароў «пахваліў» ён аж надта «высока», бо ўпаў бы з гэтай «вышыні» — была б драма. І менавіта да гэтых тэкстаў наша моладзь таго часу ўкладала сваю і не сваю мелодыю. І, бывала, натоўп нашых спевакоў, вуліцай дайшоўшы пад хату «слаўнага» гаспадара, дык як гукне песеньку, аж шыбы ў хаце задрыжаць! А песеньку пачынаў саліст-запявала, а пасля хор удасканаліць належна мелодыю і яе змест; лічыць цэлую біяграфію свайго героя. І ніхто не гневаўся, бо гэта ўваходзіла ў парадак дня і часу. А сёння за такія песенькі судзілі б.

Значыць, тады людзі жылі больш мірна і на жартах зналіся і разумелі іх значэнне, а часта крытыка як і самакрытыка вучылі людзей больш дабру, чым злу.

Мелі мы ў Дубічах здольных музыкантаў, і ў большасці былі гэта гарманісты. Хаця Пятро Чыквін (родны дзядзька маёй матулі) быў выдатным скрыпачом і прыгожа іграў на гэтым інструменце. І бадай такога музыканта-скрыпача ў нас не было. І мала таго; ён вырабляў моцныя і высакаякасныя скрыпкі, паколькі быў майстар на ўсе рукі. Яго сын, дзядзька Павел, іграў на гармоніку і разам стваралі на забавах музычны дуэт. Яшчэ па вайне не спынілі гэтага і ў маёй памяці гэта засталося, бо як дзіця чуў іхнія выступленні.

Жыў у вёсцы невідучы Піліп Карнілюк, які таксам вельмі прыгожа іграў на гармоніку. Гэта былі пераважна набожныя мелодыі. Піліп меў праведніка і людзі добрай волі, спагадлівыя і сардэчныя дарылі яму пачастункі. І нашы людзі igралі, спявалі, танцавалі ўсюды і на лавачках леткам, а зімою на пакудзеллях, калі пралі, ткалі, вышывалі скромную сваю вопратку. Усюды быў спеў і родны гоман нашага сакавітага роднага слова. Ніхто духам не падаў. Гэта не сёння. Фабрычны акардэон і іншыя музычныя інструменты былі задарагія на нашы кішэні, аднак нашы людзі былі добрымі майстрамі і на гэта; маглі самі такое зрабіць з вялікай стараннасцю і кемлівасцю, не горш ад вырабаў фабрычнай вытворчасці. Праўду кажучы, у нас такіх не было, але там, далей на ўсход, пэўна з-за Нараўкі і яе ваколіц — былі такія майстры і пад заказ маглі вырабіць прыгожую і мілагучную гармонію. І рабілі, хто меў талент і музычны слых. І цана на інструмент не была вялікая. Таксама і гітара знаходзіла сваё належнае месца. Агафон Тамашук, сын Тараса, прыгожа іграў на ёй набожныя мелодыі.

Хачу сказаць яшчэ і тое, што амаль усе мужчыны ў Дубічах-Царкоўных (жанчын менш было ў гэтай галіне) былі граматныя на свой спосаб, некалькі з іх мелі сярэднюю адукацыю, аб чым я ўспамінаў раней. Нашы бацькі трохі пры цары, у бежанстве і за санацыі здабылі нейкую адукацыю і свабодна чыталі на рускай і польскай мовах. Мой бацька ў Сібіры ў горадзе Омску закончыў тры класы пачатковай школы і адзін год вучыўся ў польскай школе. Вельмі любіў чытаць кніжкі, так як і я. З кніжкамі было цяжка, а купіць іх было не за што, былі дарагія. І зноў яны ніколі і ўжо пры маёй памяці не былі такія танныя. У вёсцы ніякага цэнтра культуры не было, у тым ліку і бібліятэкі. Аднак у школе была багатая бібліятэка і мой бацька і некалькі іншых жыхароў карысталіся ёю і пазычалі там кніжкі для чытання, кіраўнік школы не шкадаваў ім іх пазычаць. Сусед майго бацькі, Іван, таксама кнігалюб, аднойчы ў бібліятэцы пазычыў славутую кніжку «Рабінзон Крузо» Даніэля Дэфо і дзеці яе растрапалі. Кіраўнік школы патрабаваў ад яго, каб заплаціў некалькі злотых за парваную кніжку. Аднак Іван Н. пусціў гэта міма вушэй і як звычайна — не заплаціў. А шкода, што ў школе загінула такая кніжка. А чаму? Таму што «Рабінзон Крузо», выданне менавіта міжваеннага часу, было найлепшым і арыгінальным. Я прачытаў дзясяткі перакладаў гэтай кнігі на рускай і польскай мовах, і ўсе яны перакручаныя, з рознымі дабаўкамі, далёкія ад арыгінала. Гэтае міжваеннае выданне было сапраўды найлепшае, з прыгожымі малюнкамі.

((працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

# Даўнія песні, танцы і знаёмства з гісторыяй Рэйпіч

Жыхары Рэйпіч, Ляўкоў, Казлоў і выхадцы з гэтых вёсак сабраліся пасля абеду ў жніўеньскую нядзелю перад святліцай у Райках, як афіцыйна называюцца Рэйпічы, і чакалі выступлення студзіводскага калектыву «Жэмэрва» і гасцей з Латвіі. Старшыня Музея малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік папярэдзіў, што ў час музычна-гістарычнай сустрэчы будзе раздавацца навейшы нумар «Бельскага гасцінца», у якім змешчаны артыкул пра мінулае Рэйпіч і пра жыццё ў гэтай вёсцы ў дваццатым стагоддзі, пра што памятаюць або ведаюць з пераказаў старэйшыя жыхары сяла. Мерапрыемства пачалося карагодам, з якім пайшлі па вёсцы запрошаныя выступоўцы, мясцовыя дзеткі, моладзь і асобы сярэдняга ўзросту. Перад асобамі старэйшага ўзросту, якія сядзелі на лавачках і крэслах перад святліцай, госці сталі спяваць даўнія песні і танцаваць. Ужо ў пачатку музычнай сустрэчы публіка была захоплена выступамі маладых спевакоў, музыкантаў і танцораў.

— Наша вёска невялікая. Але сёння сабраліся тут таксама жыхары суседніх сёл. Апошнія музычныя мерапрыемствы арганізаваў у нас таксама Дарафей Фіёнік. Раней ладзіўся ў нас беларускі фэст, але гэта было вельмі даўно. Цяпер адрамантавалі ў нас святліцу, але з-за каранавіруса не было яшчэ яе афіцыйнага адкрыцця. Сёння ўжо ў святліцы можна было б арганізаваць гэтую сустрэчу. Аднак дождж мінуў, а зараз цёпла і нам зручна спаткацца на свежым паветры, калі спевакі хочуць тут выступаць, — сталі расказваць мае суразмоўцы з Рэйпіч, Ляўкоў і Казлоў.

Уязджаючы ў Рэйпічы і ў суседніх Ляўках заўважыў я новыя дамы і распачатыя будаўнічыя інвестыцыі. У асноўным пасяляюцца тут выхадцы з гэтых вёсак, якія жылі ў гарадах, а цяпер рамантуюць бацькаўскія хаты або будуюць новыя. Перш за ўсё гэта пенсіянеры, якія вяртаюцца ў свае вёскі.

— У Рэйпічах ёсць каля 30 дамоў. Частка з іх пустуе. Маладыя рашаюцца тут жыць, паколькі недалёка ад нас даязджаць на працу ў Бельск-Падляшскі. У Ляўках нават кароў ужо не гадуюць. Палі ў нас абрабляюць у галоўным земляробы са Спічкоў, якія апрацоўваюць сотні гектараў. Частку палёў абрабляюць яшчэ мясцовыя гаспадары, — сказалі Надзея Верамчук, Галіна Данілюк і Уладзімр Верамчук.

— Малодшыя жыхары нашай вёскі найчасцей даязджаюць на працу ў Бельск-Падляшскі. Я таксама так раблю, — заявіў Яраслаў Тамчук з Рэйпіч, які даглядаў за гасцямі.

У карагодзе побач «Жэмэрвы» і гасцей з Латвіі прайшлі па вёсцы дзеткі, моладзь і асобы сярэдняга ўзросту. Пасля дзеткі з асаблівай увагай глядзелі выступленне з даўнімі танцамі, да якіх запрошана была публіка. Да танцаў igралі на даўніх інструментах Дагнія і Эдуард — музыканты з Латвіі, а пазней даўнія песні спявалі дзяўчаты і хлопцы з калектыву «Жэмэрва». Яны асабліва спадабаліся найстарэйшай публіцы. На іх тварах малявалася радасць, калі чулі песні, якія спявалі іх мамы. Можа некаторыя з іх самі спявалі такія даўнія творы ў маладосці. Старшыня Музея малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік паінфармаваў сабраных, што ў навейшым нумары «Бельскага гасцінца» змешчаны нарыс аб гісторыі Рэйпічаў.

— Хаця афіцыйная назва вашага сяла з XVII стагоддзя гэта Райкі, вы і жыхары суседніх мясцовасцей захоўваеце гістарычнае названне Рэйпічы, якое выводзіцца ад прозвішча Фёдара Рэйпіча і яго сыноў, якія тут жылі. Аб мінулым вашай вёскі можаце прачытаць у навейшым нумары «Бельскага гасцінца», які зараз будзем вам раздаваць, — сказаў Дарафей Фіёнік, які рэкамендаваў навейшы нумар часопіса.

— Аказваецца, што гістарычная памяць можа перагрываць нават 500 гадоў. Назва вёскі Рэйпічы, якім паўсюдна карыстаюцца жыхары гэтай вёскі і наваколля, узятая ад прозвішча Фёдара і яго сыноў — Рамана і Малыша Рэйпічаў, якія тут жылі на зломе XV і XVI стагоддзяў, — удакладніў Дарафей Фіёнік, які дабавіў, што паміж Рэйпічамі і Студзіводамі даўно ўжо наладзіліся грамадска-гістарычныя сувязі.


У карагодзе побач «Жэмэрвы» і гасцей з Латвіі пайшлі жыхары вёскі


На даўніх інструментах ігралі Дагнія і Эдуард з Латвіі

— Нашы мясцовасці, Рэйпічы і Студзіводы, спалучае Зімовая дарога. Раецкія дзяўчат сваталі для студзіводскіх хлопцаў, а хлопцы з Рэйпічаў прыходзілі жыць у Студзіводы. У абедзвюх вёсках было падобнае вымаўленне і калі маладыя асобы перасяляліся на пастаяннае жыхарства ў другое сяло, не мусілі засвойваць асаблівасцей мовы другой вёскі, — сказаў Дарафей Фіёнік.

Гэтыя сувязі не спыняюцца, чаго доказам была сёлетняя музычна-гістарычная сустрэча ў Райках. Яе ўдзельнікам раздавалі навейшы нумар «Бельскага гасцінца». У артыкуле «О Райках-Рэйпічах» Дарафей Фіёнік напісаў пра жыхароў вёскі — Аляксандра Якančука і Рыгора Семенюка, якія нарадзіліся на зломе XIX і XX стагоддзяў. Аўтар прыгадвае, што запісаліся яны залатымі літарамі для мясцовай грамадскасці і беларускай культуры. У артыкуле змешчаны вершы Аляксандра Яканчука аб вёсцы на літаратурнай беларускай мове, на мясцовай гаворцы і па-польску. Аляксандр Яканчук і Рыгор Семянюк у пачатку шасцідзясятых гадоў заснавалі ў Райках беларускі народны тэатр, які вылучаўся ўзроўнем з ліку некалькіх дзясяткаў беларускіх аматарскіх драмгурткоў на Беласточчыне. У 1962 годзе члены драмгуртка з Раек выступілі на беларускім аглядзе ў Бельску-Падляшскім, а ў 1963 годзе ўдзельнічалі ў Фестывалі аматарскіх тэатраў нацыянальных меншасцей у Варшаве. Рыгор Семянюк у 1956 годзе прымаў удзел ва ўстаноўчым з'ездзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства, а пазней у Райках заснаваў гурток БГКТ. Таксама быў ініцыятарам заснавання святліцы ў Рэйпічах. У 1962 годзе ў «Ніве» быў надрукаваны допіс Рыгора Семянюка аб Райках. У ім напісаў ён аб новай святліцы з багатым абсталяваннем, чытальняй, бібліятэкай, аб выступленнях тэатральнай групы з Бельскага белліцэя, іншых драмгурткоў і «Лявоніхі» з Янкам Крупам. Аўтар допісу сцвердзіў, што настала лепшае, цікавейшае і весялейшае жыццё. Дарафей Фіёнік піша, што сын Рыгора Семенюка, Валянцін Семянюк, быў солтысам Раек і ў 1970-1990 гадах быў адным з больш актыўных ніўскіх карэспандэнтаў. Цікавіўся жыццём сваёй вёскі, яго наваколля і беларускім культурным жыццём, што апісваў у допісах друкаваных у «Ніве». Тады наш тыднёвік паўсюдна чыталі ў Рэйпічах, якія налічвалі 26 дамоў. Традыцыя чытання «Нівы» прадаўжаецца ў Райках па сённяшні час.

— Я і зараз пастаянна чытаю «Ніву». Мне цікавая беларуская культура і песні, якія тут спяваюцца. Адзін з сыноў збудаваў новы вялікі дом у канцы вёскі. Калі жыве тут на месцы, можа мне дапамагчы. Свой дом і панадворак я перапісала на другога сына, які можа схоча сюды пасяліцца, — заявіла Яўгенія Семянюк.

Традыцыю арганізавання ў Рэйпічах беларускіх музычна-танцавальных мерапрыемстваў прадоўжыў Музей малой айчыны ў Студзіводах, а перш за ўсё яго старшыня.

— Мы і раней арганізавалі ў Рэйпічах музычныя мерапрыемствы. У 2010 годзе наладзілі тут Падляшска-Палескія жніўныя сустрэчы «Олень по бору ходіт». Прыехалі на іх фальклорны калектыў са Спорава на Палессі, наша «Жэмэрва» і «Ільінская пятніца» з Рыгі. Карагодам мы тады прайшлі праз Казлы, Райкі і ў час свята прарока Ільі далі канцэрт на плошчы за святліцай, у цяньку ліп, калі сабралася амаль дзвесце асоб. У рамках жніўных сустрэч «Олень по бору ходіт» у 2011 годзе мы ў карагодзе ізноў прайшліся па Рэйпічах і арганізавалі канцэрт калектываў «Даранасіца» і «Хмелеўскія валацугі» з Хмелева, «Быліна» з Літвы і нашай «Жэмэрвы». Тады якраз Мацей Філіпчук праводзіў у Студзіводах майстар-класы па ігры на музычных інструментах і пад яго кіраўніцтвам у Райках зайгралі да танцаў скрыпачы і дудары, — успамінаў Дарафей Фіёнік. — У Рэйпічах свая багатая гістарычная і культурная традыцыя, захаваліся мясцовыя абрады і песні. Можам аб гэтым пераканаца хаця б з успамінаў Веры Сахарэвіч.

У навейшым нумары «Бельскага гасцінца» надрукаваны ўспаміны Веры Сахарэвіч, ураджэнкі Рэйпічаў, якая выйшла замуж у Студзіводы. У сваім аповедзе ўспамінае яна дзяцінства, бежанства і штодзённае жыццё ў абодвух мясцовасцях і ў суседніх Ляўках, прыгадвае абрады і песні, якіх словы запамятала.

Калі выступы прадоўжыліся, спевакі і танцоры калектыву «Жэмэрва» праспявалі нашы даўнія песні, а мастацкі кіраўнік Анна Фіёнік расказала пра паасобныя творы, запісаныя калектывам ад старажылаў на Падляшшы і Палессі.

— Мы нядаўна прайшлі з карагодамі па вёсках у наваколлі Семяноўскага вадасховішча. Арганізуем майстар-класы па белым спеве. У іх выніку заснавалася жаночая вакальная група. Пры «Жэмэрве» хлопцы ствараюць музычны мужчынскі калектыў, будзем разгортваць дзейнасць інструментальнай капэлы, якая састаўляе акампанемент для нашых спеваў. Зараз выступаем з песнямі, запісанымі падчас экспедыцый па Падляшшы і Палессі, — сказала мастацкі кіраўнік Студыі традыцыйнага фальклору «Жэмэрва» Анна Фіёнік.

У час музычнай сустрэчы апрача спеву былі яшчэ танцы з удзелам публікі і размовы Дарафея Фіёніка і членаў «Жэмэрвы» з удзельнікамі мерапрыемства.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Шпацыр па мультыкультурным рэгіёне

Ідэя Цэнтра культурных сустрэч задумана Гмінным цэнтрам культуры ў Міхалове. Стараецца ён за фінансаванне праекта «Цэнтр сустрэчы культур» з еўрасаюзных сродкаў. Галоўнай мэтай цэнтра з'яўлялася б стварэнне прасторы, якая давала б магчымасць спазнання розных аспектаў жыцця ў полікультурным рэгіёне. Створанае месца павінна падкрэсліць мультыкультурную гісторыю Міхалова (немцы, яўрэі, беларусы і палякі жылі разам у адным мястэчку) і ўсяго мультыкультурнага рэгіёна.

Праект прадугледжвае загаспадаранне тэрыторыі паўз ракі Супрасль, надаўшы ёй форму бульвараў, якія канчаліся б на ўзроўні Майстэрні фільма, гуку і фатаграфіі ў Міхалове. Акрамя бульвараў мае быць створаны культурны пасёлак, дзе зможам наведаць каваля, ткачыху, колішнюю карчму, даведацца пра віды зёлак у знахара, збіць масла традыцыйным спосабам і г.д. Цэнтр сустрэч культур быў бы месцам цыклічна арганізаваных канферэнцый і дыскусій па гісторыі і культуры рэгіёна. Праект таксама накіраваны на павелічэнне турыстычнага патэнцыялу рэгіёна Кнышынскай пушчы.

З улікам функцыянавання ў Міхалоўскай гміне Цэнтра мясцовага прадукту ў Саколі і Майстэрні фільма, гуку і фатаграфіі ў Міхалове, новае месца стане клямарам сашпільваючым іх дзейнасці і створыць магчымасці для далейшага развіцця.

У цэнтр увойдуць: бульвары па рацэ Супрасль — прыгожыя, светлыя і бяспечныя бульвары з захаваннем натуральнай дзікасці берага ракі шляхам рэкультывацыі зеляніны, дарожак, малой архітэктуры і асвятлення. Праект прадугледжвае стварэнне кветкавага лугу, а таксама высаджванне дэкаратыўных траў і ажыўленне набярэжнай шляхам дадатковай пасадкі відаў водных раслін і дрэў растучых у наваколлі. Бульвары будуць функцыянальна звязаны з пасёлкам культуры і МФГіФ. **Культурнае паселішча** будзе паказваць характэрныя прафесіі, культурна звязаныя з дадзенай нацыянальнасцю:

* **Каваль** — цалкам абсталяваная кавальская майстэрня, дзе з дапамогай традыцыйнага меха каваль разагравае метал на агні і ператварае яго ў любы інструмент альбо падкову. Майстэрня будзе выкарыстоўвацца для дэманстрацый і як працоўнае месца каваля для вытворчасці ўласных вырабаў.

* **Ткач і народнае рукадзелле** — хата ткача, дзе прадзенне будзе рабіцца на традыцыйным калаўротку, а тканне на рознага тыпу ткацкіх станках. Будуць там прылады для апрацоўкі сцябла лёну для вырабу традыцыйных ільняных нітак. Наведвальнікі змогуць там самастойна сплесці бранзалет з воўны, зрабіць крайку-паясок на сярэдневяковым ткацкім станочку альбо паспрабаваць папрацаваць на ткацкай катушцы.

* **Гаспода / карчма** — корчмы ці іншыя шынкі былі неад'емным элементам ландшафту старых часоў. Яны былі месцам, дзе падарожнікі маглі знайсці адпачынак, начлег для сябе і коней, паесці і пагутарыць з сябрамі. Акрамя сядзібы, яны былі галоўным цэнтрам сацыяльна-эканамічнага жыцця тагачаснай вёскі. Яны былі самай важнай і неабходнай установай як для суседскіх сустрэч, так і для практыкавання ўсіх відаў звычаяў і рытуалаў. Яны былі месцам забаў і адначасова продажу шматлікіх тавараў, неабходных сельскай ці гарадской абшчыне. Там таксама займаліся справай мытнікі. У карчме можна было таксама прадаць сельскагаспадарчую прадукцыю альбо набыць вырабы ручной работы. Будзе пабудавана традыцыйная карчма, дзе можна будзе пакаштаваць традыцыйныя стравы і прыняць удзел у кулінарных майстэрнях, традыцыйнай выпечцы хлеба, варэнні медавухі і піва.

* **Ганчар** — ганчарны промысел вядомы ў нас больш за тысячу гадоў. Падчас працы ганчар прадставіць метады падрыхтоўкі гліны і розныя прыёмы качання прадметаў на коле: збаноў, місак, куфляў ці падсвечнікаў. Гледачы таксама будуць мець магчымасць даведацца пра гісторыю керамікі, пачуць аповеды, казкі і анекдоты, звязаныя з гэтай старой прафесіяй. Атмасферу ствараць будуць таксама простыя рамесныя ўборы ганчара.

* **Свечачнік** — выраб свечак сярэднявечным метадам з сапраўднага пчалінага воску.

* **Колішняя вёска** — прэзентацыя шматлікага абсталявання для сялянскай гаспадаркі. Паказ павінен быць інтэрактыўным, удзельнікі могуць паспрабаваць свае сілы, напрыклад, пры збіванні масла ў маслабойцы альбо перамолванні мукі ў драўляным жарнавым млынку і ўзбіванні круп у больш чым стагадовай ступе. У рамках гэтага рамяства прапануецца дэманстрацыя замесу цеста і выпякання аладак альбо палення зерневай кавы ў спецыяльным, выкаваным кавалём гаршку. Наведвальнікі таксама могуць напіцца вады з калодзежа і памыць адзежу ў абсталяванні для сціркі нашых прабабуль. Будзе тут вельмі вялікі, павучальны і надзвычай прывабны стэнд таксама для дзяцей.

працяг ☞




# http://budzma-krama.by

Падзеі адышоўшага лета і восені, якая толькі пачалася, у Беларусі адзначаюцца не толькі жорсткім збіццём і арыштамі мірных маніфестантаў, але і неверагодным уздымам народных кпін з рэжыму цяперашняга правіцеля, які з дапамогай Расіі пакуль трымае сваю неабмежаваную ўладу. Чаго толькі варты такія крычалкі як „Лукашэнка — у аўтазак" ці „Беларусь, выганяй тракана з галавы"! І ўсё гэта натхненне і прага свабоды і справядлівасці маюцца пад бел-чырвона-белым сцягам. Сцягам, які сам па сабе стаў кпінай з таго, хто калісьці ад яго адмовіўся, разарваў і спрабаваў і дагэтуль спрабуе зганьбіць.

Але не толькі нацыянальны сцяг зараз спадарожнічае беларусам у іх мірнай, але адважнай барацьбе з узурпатарам і яго атачэннем. Ёсць досыць розных рэчаў, якімі падкрэсліваецца беларуская адметнасць. Іх можна зрабіць самому альбо набыць у розных інтэрнэт-крамах. Адна з такіх мае грамадская кампанія „Будзьма беларусамі!".

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на сайт па адрасе **https://budzma-krama.by**, то перад яго вачыма адкрыецца даволі прывабнае выяўленне інтэрнэт-крамы, якое, праўда, аформлена даволі традыцыйна. Так, уверсе месяцца выйсці да раздзелаў сайта. Іх даволі многа і пад кожным можна знайсці тую ці іншую групу тавараў, якімі гандлюе інтэрнэт-крама. Гэта — „Адзенне", „Торбы", „Посуд", „Нататнікі", „Для дома", „Падстаўкі пад кубкі", „Аксесуары", „Мяткі", „Упрыгожванні" і „Дзецям". Таксама на галоўнай старонцы паведамляецца пра зніжкі і новыя паступленні тавараў для продажу.

Аднак самая галоўная рубрыка гэта пра краму беларускіх адметнасцей — „Пра нас". „У нашай краме цікавыя і адметныя рэчы ад ужо вядомага брэнда „Будзьма!" у шырокім асартыменце, прысвечаныя беларускай культуры і нацыянальнай ідэнтычнасці. Культурніцкая кампанія „Будзьма беларусамі!" у свой час адной з першых шырока і рознымі сродкамі не толькі папулярызавала беларускую культуру і гісторыю, але і небанальна падыходзіла да ўвасаблення самых розных аспектаў беларускай ідэнтычнасці. Так і нарадзіўся брэнд „Будзьма" дзеля таго, каб стыльных і прыгожых рэчаў з беларускім характарам станавілася болей. Мы ствараем сучасныя і актуальныя рэчы для дзетак і дарослых, якія дазволяць падкрэсліць сваю адметнасць праз перліны з беларускай культуры. А яшчэ наша інтэрнэт-крама — пляцоўка для майстроў і вытворцаў, якія разам з намі гатовыя задаволіць попыт людзей крэатыўных, дзейных і маладых духам, не губляючы беларускай „разынкі", — распавядаецца на дадзенай старонцы.

Зразумела, што свае тавары крама прапануе тым, хто лічыць сябе беларускім патрыётам і хоча гэта прадэманстраваць. Таксама віртуальныя гандляры лічаць, што іх рэчы дапамогуць выхаваць з густам дзіцё, вылучацца з натоўпу і праявіць сваю адметнасць.

Дарэчы, дадзеная інтэрнэт-крама працуе не вельмі доўга — яна з'явілася літаральна напрыканцы 2019 года — у мінулым снежні. Тады яе ўладальнікі пазначалі, што „больш няма патрэбы шукаць нашу прадукцыю ў розных месцах, бо цяпер яна сабраная ў адным", а „быць беларусам ці беларускай цяпер стала яшчэ прасцей!".

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

# 165 гадоў з дня нараджэння Канстанціна АЛЯКСЕЕЎСКАГА

Дзеяч беларускага нацыянальнага руху, вайсковец Канстанцін Аляксееўскі нарадзіўся 15 верасня 1855 г. Вядома, што паходзіў з сям'і праваслаўных дваран з тэрыторыі тагачаснай Віленскай губерні. Дакладнае месца нараджэння невядомае.

Канстанцін Аляксееўскі атрымаў адукацыю ў Полацкай вайсковай гімназіі. У 1875 г. скончыў Другое Канстанцінаўскае вучылішча. У 1908-1911 гадах быў камандзірам Першай Уладзівастоцкай крапаснай артылерыйскай брыгады. З 1911 г. — начальнік артылерыі Свеаборгскай крэпасці. Гэта крэпасць у фінскай сталіцы Хельсінкі, пабудаваная Швецыяй дзеля абароны горада ад нападаў з мора ў другой палове XVIII ст. на астравах, размешчаных ва ўсходняй частцы гавані Хельсінкі. Яна з'яўляецца асабліва цікавым прыкладам еўрапейскай ваеннай архітэктуры таго часу і залічана ў спіс культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

Аляксееўскі як ваенны дзеяч меў значныя ўзнагароды: ордэны Святога Станіслава 3-й ступені (1889), Святога Уладзіміра 3-й ступені (1912), Святога Станіслава 1-й ступені (1915), Святой Ганны 1-й ступені (1915).

Увесну 1917 г. у Выбаргу Аляксееўскі далучыўся да арганізацыі матросаў-беларусаў Балтыйскага флоту. Выбраны ў склад Савета старэйшын на Першым Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 г. Заклікаў адрадзіць беларускую дзяржаву, на з'ездзе выступіў у абарону беларускага нацыянальнага бел-чырвона-белага сцяга. 20 снежня, калі пасля доўгіх спрэчак было вырашана лічыць з'езд правамоцным, генерал папрасіў слова і сказаў: „Мы працавалі ўсю рэвалюцыю разам з украінцамі: мы адсталі ад іх, але ж ёсць прыказка „апошнія будуць першымі (*апладысменты*), тут сабраліся лепшыя людзі Беларусі. Менавіта вы можаце вырашыць лёс Беларусі. Асцерагайцеся, каб не было таго, што ўсё наша багацце паразбіраюць, адбяруць жывёлу, коней, а нам нічога не пакінуць" (*бурныя апладысменты*). Потым Аляксееўскі прапанаваў запрасіць на адкрыццё з'езда „наш беларускі хор" („Белорусская рада, № 6, 8 снежня 1917). Канец гэтага дня быў азмрочаны „нечуваным нахабствам прадстаўніка, паводле яго слоў, латышскага народа, а дакладней проста нахабнага бальшавіка, які прапанаваў нам, сапраўдным сынам шматпакутнай, але з гэтага часу свабоднай Беларускай нацыі, ён меў дзёрзкасць прапанаваць нам выкінуць наш беларускі сцяг. Якая бульварная дзёрзкасць! Якая абраза ўсяго беларускага народа! Не добрую паслугу аказаў бальшавікам іх прадстаўнік. Крыкі абурэння, узнятыя кулакі, крыкі: „Прэч" і „Далоў" былі адказам на „прывітальную гаворку". Пасля выступу бальшавіка „наперад выйшлі салдат, матрос і генерал, моцна сціснуўшы рукі адзін аднаму, і стары генерал... Аляксееўскі пацалаваў гэты сцяг, які толькі што быў абсмяяны вар'ятам" („Белорусская рада", № 7, 10 снежня 1917).

Генерал яшчэ шмат разоў выступаў на з'ездзе і пакінуў цікавыя ўспаміны пра яго ў газеце „Чырвоны шлях" (1918, № 1-2). Ён пісаў: „З'езд гэты назаўжды застанецца памятны тым, хто на ім прысутнічаў, і хай ён часцей пра яго ўспамінае, і хай раскажа іншым, хто не мог асабіста прысутнічаць, у асаблівасці беларускай моладзі. Такога ўздыму, такога нацыянальнага аб'ядноўваючага беларускага непасрэднага пачуцця нельга забыць да труннай дошкі", — так ацэньваў з'езд Аляксееўскі.

У 1918 г. Канстанцін Аляксееўскі быў запрошаны Радай БНР у Менск для фармавання беларускай нацыянальнай арміі. Далейшы яго лёс невядомы.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

* **Знахар** — хатка народнага лекара, прыгожая, натуральная, поўная кветак і лекавых раслін, дзе будуць зёлкі, сабраныя выключна з Падляшша. У гэтым месцы можна будзе даведацца пра метады і прыёмы падрыхтаваных зёлак і лекавых адвараў. У хаце можна будзе паспрабаваць унікальныя настойкі, прыгатаваныя традыцыйным спосабам.

* **Разьбяр** па дрэве — у яго майстэрні можа будзе паспрабаваць зрабіць фігуру з пня дрэва, фігурку святога, прыдарожную каплічку, упрыгожанне хаты ці мэблі. Прыгожае майстэрства будзе падбітае ведамі пра прыроду і незвычайнай чуласцю і мастацтвам майстра-месніка.

* **Шавец** — рамеснік, які рамантуе і шые абутак. Цяпер гэта знікаючая прафесія. Старадаўняе тутэйшае шавецкае майстэрства мае даўнюю традыцыю, якую арганізатары хочуць наблізіць удзельнікам мерапрыемстваў. Шавец выкарыстоўвае вельмі цікавыя інструменты, такія як шавецкае кавадла, шпілька, шыла, шчаціння, шпагат, абцугі, капыты, малаткі, розныя правілы і іншыя інструменты. Таксама на месцы можна ўбачыць велізарную шавецкую машыну маркі Зінгер для пашыву вельмі тоўстых скур.

Акрамя таго, будзе створана мастацкая прастора для падтрымкі і прасоўвання мясцовай народнай творчасці. Турысты, якія наведаюць Міхалова, даведаюцца пра культуру іншых нацыянальнасцей. Ахвотныя змогуць прыняць удзел у розных майстар-класах, вакальных і танцавальных уроках.

Увесь праект будзе каштаваць 25 мільёнаў злотых. **(лук)**

# Пачынаецца XXXIX Фестываль пяючай душы



У пятніцу, 11 верасня, адбылася ў Беластоку прэс-канферэнцыя дырэктара Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі «Гайнаўка-2020», які адбудзецца ў Беластоку; традыцыйна ўсе беластоцкія падзеі канцэрта будуць адбывацца ў канцэртнай зале па вуліцы Падлеснай, 2. Інаўгурацыйны канцэрт сплянаваны на 19-ю гадзіну ў чацвер 17 верасня і будзе ён прысвечаны 90-годдзю прафесара Рамуальда Твардоўскага, шматгадовага старшыні журы фестывалю. Выканаўцам будзе Камерны хор Schola Cantorum Gedanensis з Гданьска пад кіраўніцтвам Яна Лукашэўскага. Традыцыйна інаўгурацыйны канцэрт выконваў лаўрэат папярэдняга выпуску фестывалю з Расіі, аднак сёлетнія санітарныя абставіны не дазволілі на гэта.

Конкурсныя слуханні пачнуцца ў пятніцу 18 верасня а 17-й гадзіне, чарговыя слуханні ў суботу 19 верасня а 15-й гадзіне — у Беластоку па вуліцы Падлеснай, 2. Прадбачваюцца выступленні выканаўцаў з Грэцыі, Балгарыі, Латвіі і Польшчы. Напярэдадні фестывалю не стала магчымае прыбыццё выканаўцаў з Венгрыі, Іспаніі і Паўночнай Македоніі; прыезд выканаўцаў з-за ўсходняй граніцы немагчымы. Выканаўцы будуць выступаць у трох катэгорыях: прыходскіх, аматарскіх свецкіх і прафесіянальных хароў.

У суботу адбудуцца таксама суправаджальныя мерапрыемствы. У Беластоку адбудзецца прэзентацыя альбома «Фестываль пяючай душы» і паказ фільма пра фестываль. У Варшаве, у евангеліцкім касцёле па вуліцы Малахоўскага, 1 адбудзецца канцэрт царкоўнай музыкі, дзе прадбачваецца выступленне жаночага хору з грэчаскага Пірэя, што побач Афін, ды балгарскага мужчынскага хору з Сафіі. У Сейнах прадбачваецца канцэрт латвійскіх удзельнікаў фестывалю, прысвечаны памяці прафесара Анджэя Струмілы.




У нядзелю, 20 верасня, а 14-й гадзіне будуць аб'яўлены вынікі фестывалю, а дзве гадзіны пазней пачнецца гала-канцэрт з дзвюх частак; прысвечаны ён будзе памяці мастацкага патрона фестывалю, памерлага сёлета выдатнага польскага кампазітара Кшыштафа Пэндэрэцкага, які напісаў шмат твораў у жанры царкоўнай музыкі. У першай частцы выступяць удзельнікі з творамі кампазітара, а ў другой выдатны Хор Беластоцкай оперы і філармоніі пад кіраўніцтвам Віялеты Бялецкай.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## Адгаданка

**1**. коўзкая частка саней, **2**. антонім абароны, **3**. адзін з больших раённых гарадоў Гродзенскай вобласці, **4**. антонім сытасці, **5**. рэзкі гук, выкрык, **6**. даўганогая птушка з загнутай дзюбай, якая жыве каля цёплых вадаёмаў, **7**. горад пры ўліцці Сажа ў Дняпро, **8**. дзяржава з Тэгеранам, **9**. густы ўчастак лесу, **10**. вулей у дупле.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | | |
| | | | | 2 | | | | 3 |
| | | 4 | | | 5 | 6 | | |
| | 7 | 8 | | | | | | |
| | | | | 9 | | | | 10 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 34 нумара**

Субота, крыга, адрас, Супрасль, кот, лотаць, Нява, зерне, люты, меню.

Рашэнне: **Да работы не пускаюць ляноты**.

# 20.09 — 26.09

**(22.03. — 20.04.)** 22-26.09. не скампраметуйся, сачы за сабою і не рабі глупстваў. 20-23.09. з поспехам знойдзеш новую працу ці падзаработак; добра настаўляй вуха. 23-25.09. можаш пачаць рамонт жылля. Вельмі дбай аб свой пазваночнік. Твая лагоднасць прынясе спрыянне іншых. Добра было б пачаць табе рэабілітацыю, насі цёплую бялізну.
**(21.04. — 21.05.)** Уран паможа табе змяніць бачанне свету. У пары не спрачайся. Прафесійнае ажыўленне. Запрагнеш вялікіх рэчаў, а прыйдзецца табе засяродзіцца на дэталях. Пакуль возьмешся за амбітныя праекты, парабі папраўкі ў меншых. Дбай аб сваё сэрца. Няблага ў прафесійных справах не толькі для цябе, але і знаёмых; будзеш добрым дарадчыкам. Падвучыся, назбірай матэрыялаў — яны неўзабаве спатрэбяцца.
**(22.05. — 22.06.)** Навучышся многаму. Купіш камфортны набытак, які падкрэсліць твой прэстыж. З 25.09. аздаровяцца адносіны паміж табой і блізкімі. Дакажаш усім, што можаш! Дай сабе больш часу на абдуманне рашэнняў. Гарачы раман не мае будучыні. Прымяняй касметыкі з гліцэрынай і араматычнымі алеямі.
**(22.06. — 23.07.)** 20-22.09. будзеш неабгрунтавана зайздросны. 21-25.09. памарыш аб спакоі пры баку прадказальнага партнёра. 20-22.09. спрыяе парадкам дома, зробіш, пасля добра адпачнеш. Зрэалізуеш у верасні ўсё, што запрагнеш, хаця магчымыя неспадзеўкі 20-22.09. — выявяцца недаробкі. Будзеш вельмі прадпрымальны, не прапусціш ніякай нагоды, каб падзарабіць. З 26.09. можаш быць агрэсіўны і злосна ўпарты.
**(24.07. — 23.08.)** Пазбудзешся турбот і глянеш на свет з усмешкай. 20-22.09., калі маеш блізка чалавека начэплівага і даказваючага ўсім што мае рацыю, старайся яго пазбягаць З 25.09. для ўсіх шукаючых працу будуць адкрыты ўсе дзверы. Атачэнне мілых людзей, асабліва ў апошняй дэкадзе верасня.
**(24.08. — 23.09)** Варта даць з сябе ўсё, бо твае задумы спадабаюцца і будуць мець прызнанне. Але 20-22.09. даведаешся непрыемных рэчаў аб сабе або кімсьці блізкім. 23-25.09. зважай на словы, бо цяжка будзе іх табе кантраляваць. Моцны рост энергіі, сіла, каб перанесці магчымыя паразы, інтуіцыя, дзякуючы якой разбярэшся ў кожнай сітуацыі.
**(24.09. — 23.10.)** Будзеш кампанейскі, але 22-24.09. абмяжуешся да добра вядомых табе людзей. 20-22.09. будзеш недаверлівым і заўзята будзеш бараніць сваёй прыватнасці. Ідэальны час на падвучванне, здабыванне новых умеласцей. З 25.09. будзеш душой кампаніі. 23-25.09. схочуць уцягнуць цябе ў канфлікт; не ўключайся ў чужыя дыскусіі. 23-25.09. лепш не ідзі на аперацыі, але спакойна можаш ісці да касметолага.
**(24.10. — 22.11.)** Справы павінны ўдацца. Хаця 20-22.09. хтосьці схоча выкарыстаць супраць цябе сакрэтныя інфармацыі. 23-25.09. магчымыя канфлікты; не стаў спраў рубам. Пазбягай тлумных месцаў, смаркатых і кашляючых суседзяў. З 26.09. будзь вельмі асцярожным, таксама за рулём.
**(23.11. — 22.12.)** 22-24.09. могуць патрактаваць цябе зверху або адправіць без падтрымкі. Схочацца прызнацца ў пачуццях старому сябру ці каляжанцы, але ці варта псаваць сяброўства? Выкарыстаеш, дарэчы, усе нагоды для рамантычных знаёмстваў. Калі выбіраешся ў новую школу, сустрэнуць цябе цудоўныя людзі. Горш, аднак, у адносінах дома. І не павучай шэфа! Раўнавагу паможа захаваць табе кантакт з прыродай.
**(23.12. — 20.01.)** Твае высілкі прынясуць плён. Будзеш мець умовы для рэалізацыі намераў і дасягнення поспеху. 20-22.09. на працы не дай сябе ўцягнуць у непатрэбныя дыскусіі. Народжаныя ў II дэкадзе возьмуць кар'еру ў свае рукі. Сустрэнеш многа спрыяльных табе людзей, якіх парадамі варта пакарыстацца. З 26.09. пільнуйся, каб не прастудзіцца! Не абміне цябе візіт у лекара, хай бы нават на абмен пломбы.
**(21.01. — 19.02.)** 20-22.09. зоркі заахвоцяць цябе да адкрывання сямейных тайнаў. На працы хвіліна затрымкі і одуму вельмі патрэбная, асабліва 22-24.09. — абмінеш памылку, паспееш зрабіць папраўкі. 23-25.09. кепска ў паразуменні. З 25.09. сустрэнешся з даўно нябачанымі сябрамі. З 26.09. хтосьці твае словы ўспрыме як атаку; моцны адпор тваім планам.
**(20.02. — 21.03.)** Удасца табе аформіць найважнейшыя планы, хаця магчымы дробныя ўскладненні. Палюбі самога сябе. Шыкуецца сямейная імпрэза ці з'езд; пільнуйце адлегласці! Выявяцца ў табе новыя таленты. Нягблага ў інтарэсах. З поспехам супрацьставішся несправядлівасці. Некаторых тваіх сяброў агорне манія вялікасці — а ну іх! Пі больш чыстай вады.

— **Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# За Сідрай

У цэнтр Сідры з чыгуначнага вакзала вядзе тратуарчык па набярэжнай аднайменнай рэчкі ў чароўным антуражы навакольнай расліннасці. Той тратуар, як мне здаецца, штораз больш зелянее, а значыць, штораз менш стоптваецца, штораз меншы на ім рух. У цэнтры мястэчка выходзіць ён прама на вуліцу, якая далей выходзіць у шашу ў напрамку Залесся.

І сама Сідра быццам крышку здрамнулася каля адзінаццатай гадзіны дня, магчыма, што пасля ранішняга пад’ёму акунулася ў даабедную сіесту, свайго роду перадышку. На вуліцах пуставата, толькі ў парку мужчына выкошвае падрослую траву. Руіны даўняга кальвінскага храма трываюць пакуль нязменна, касцёл таксама адпачывае ад жарснасці вернікаў...

Свой зорны час Сідра мела ў XVI стагоддзі, калі правіў у ёй з 1558 года Астафій Валовіч. Пры ім Сідра была ўзведзена ў ранг горада, быў тады таксама ўзведзены кальвінскі храм. Вікіпедыя: «У 1558 г. разам з ваяв. віленскім Мікалаем Радзівілам Чорным, А. Валовіч вёў перамовы з маскоўскім паслом Алфёравым, пра мір паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай, саюз супраць Крымскага ханства і Турцыі. Пасля пачатку Лівонскай вайны, калі ў 1560 г. паўстала пытанне пра шлюб Івана IV з адной з сясцёр Жыгімонта Аўгуста, А. Валовіч адзін з тых, хто выказаўся «за», праўда абумовіўшы шлюб «вечным мірам» і захаваннем Інфлянтаў за ВКЛ. Побач з Мікалаем Радзівілам Чорным і Рыгорам Хадкевічам, А. Валовіч адзін з лідараў апазіцыі Люблінскай уніі. Разам з віленскім ваяводам і канцлерам Мікалаем Радзівілам Рудым, жамойцкім старостай Янам Хадкевічам, падскарбіем Мікалаем Нарушэвічам, прапанаваў г.зв. «Праект уніі» з 15 артыкулаў, які гарантаваў Княству адносную незалежнасць, аднак праект не быў прыняты. Разам з іншымі магнатамі — працўнікамі аб’яднання ВКЛ з Каронаю — пакінуў Люблінскі сойм, паслаў на Падляшша і Валынь адозвы з заклікам змагацца супраць уніі. Прымаў актыўны ўдзел у аграрных рэформах 1550-1560-х гадоў, за гэтыя службы ад Боны Сфорцы А. Валовіч атрымаў Усвяцкае і Езярышчанскае старостывы. Разам з юрыстамі Аўгусцінам Ратундусам і Пятром Раізіям А. Валовіч рыхтаваў 2-е выданне Статута ВКЛ, які быў зацверджаны 1.3.1566 на Віленскім сойме. Паводле прапановы А. Валовіча ў Статут быў уключаны артыкул, паводле якога «загранічнікам» забаранялася набываць землі і займаць урады ў ВКЛ. Удзельнік Варшаўскай канфедэрацыі (1573). Прымаў актыўны ўдзел у Лівонскай вайне, у т.л. у вызваленні Полацка (1579) і ўзяцці Вялікіх Лук (1580). Паводле веравызнання кальвініст, разам з Мікалаем Радзівілам Чорным, Мікалаем Радзівілам Рудым, Янам Кішкам быў апекуном рэфармацыйнага руху ў ВКЛ. У канцы жыцця прыхільна ставіўся да антытрынітарызму. Падтрымліваў гуманістаў В. Цяпінскага, Якуба з Калінаўкі і С. Буднага...».

*Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* з пачатку XX стагоддзя падае, што кальвінскі храм каля 1700 года тадышні ўладальнік хацеў перавесці ў каталіцкі касцёл, але пад ціскам прускіх улад гэтая задума была прыпынена і будынак датрываў да 1880 года, калі быў знесены, асталіся толькі фундаменты. А цяперашні мураваны касцёл быў узведзены ў 1783 годзе. *Геаграфічны слоўнік*: «Храм гэты, узведзены на ўзгорку, адзначаецца прыгожым італьянскім стылем, мае 38 аршынаў даўжыні, 19 шырыні і 26 вышыні, апрача сакрыстыі і скарбца (аршын роўны 71,12 см — А. В.). Крыты гонтамі, убогі ўсярэдзіне...».

Падаўся я згаданай дарогай у напрамку Залесся. Каля паўкіламетра ад цэнтра Сідры тамашнія каталіцкія могілкі. На бугарку намагільнікі даўняй сідранскай і навакольнай знаці. Там намагільнік сям’і Ваньковічаў, сваякоў вядомага польскага пісьменніка Мельхіёра Ваньковіча; сям’я ў свой час валодала недалёкім маёнткам Мікелеўшчына. Побач чыгунны намагільнік з эпітафіяй «Pamięci Benedykta Stebelskiego, starosty grązowieckiego. Urodził się 1769, umarł dnia 7 sierpnia 1831 roku». Дзе знаходзілася тое староства — цяжка здагадацца.


Руіны кальвінскага храма

Там жа і чыгунны намагільнік Атона Бэра з эпітафіяй: «Tu spoczywają zwłoki ś.p. Ottona Baehra, Marszałka szlachty ptu Sokólskiego. Żył lat 58, +1865 r. Pokój duszy jego». Атон Бэр быў неардынарнай асобай; з інтэрнэту: «У палове XIX стагоддзя маёнткі на Сакольшчыне адзначаліся высокім культурным узроўнем. Першынства тут за Макаўлянамі, уласнасцю сям’і Бэраў, якая пасялілася ў павеце ў пачатку XIX стагоддзя. Атон Бэр, маршалак шляхты Сакольскага павета быў асобай вядомай і шанаванай. Будучы гарачым прыхільнікам распрыгоньвання сялян шматразова прадстаўляў справу на шляхецкіх з’ездах. Перапісваўся з Аляксандрам II». Сям’я Бэраў жыла ў Гродзіску каля Сухаволі. Сын маршалка, таксама Атон, быў выдатна адукаваным чалавекам; навучаўся ён спачатку ў Беластоку, а пасля ў універсітэтах Дорпата (цяпер Таліна), Караляўца, Гале каля Лейпцыга і Парыжа. У Макаўлянах развіў садоўніцтва, адкуль у канцы XIX стагоддзя пасылаў па некалькі цэнтнераў садавіны ў Пецярбург, Маскву і Варшаву. Развіваў таксама гадоўлю пародзістых коней, а нават, за пагалоскамі, вывад вінаградных смаўжоў... Крыху раней у гэтым месцы згадваў я пра вытокі выводу сакольскай пароды коней і мяркую, што развілі яе бывалыя ў свеце людзі, якія на Сакольшчыну завіталі з Захаду, магчыма з Шатландыі, магчыма з Германіі...

Побач і сціплы намагільнік прафесара Францішка Рышкі, ураджэнца недалёкай Князёўкі. Вікіпедыя падае ягонае навуковае дасье, падае, што памёр ён у Варшаве, але ціха пра месца ягонага нараджэння. Даты яго жыцця (1924-1998) супадаюць з намагільнікавымі і я пацікавіўся ім глыбей. І знайшоў у інтэрнэце, што ён нарадзіўся ў Гродне, а пасля вайны апынуўся ў Вроцлаве, а пазней у Варшаве. Быў ён па адукацыі юрыстам, гісторыкам, палітолагам. А чаму спачыў ён у Сідры? Бо ў Сідры пахаваны яго сваякі па мацеры з роду згаданых Ваньковічаў...


Касцёл у Залессі


Вакзал у Кузніцы

З Сідры падаўся я ў бок Залесся, цераз вобруб Князёўкі, якая раскінута па калёніях. Далей Ставарова, якое ўжо значна выселенае. За вёскай, за расходнымі дарогамі, у напрамку былога маёнтка Мікелеўшчына, віднее здалёк ад дарогі драўляны праваслаўны крыж, паміж ворным і здзічэлым полем. Відаць, здарылася там нейкая ціхая трагедыя, прыхаваная адсутнасцю эпітафіі.

І Залессе. Яшчэ дваццаць гадоў таму была гэта жывая касцельная вёска. Насупраць мураванага касцёла, узведзенага ў 1602 годзе, крама, якая даўней бурліла памяркоўным вясковым жыццём; зараз яна закрыта. Пасярэдзіне пляца пастаўлены дзесяць гадоў таму помнік маршалку Юзафу Пілсудскаму. І з краю вясковай плошчы паветка аўтобуснага прыпынку. А пад паветкай мой «металічны гуляка», пра што я пісаў трынаццаць гадоў таму: «Вось малочны бітон-сметнік, які красуецца ў цэнтры адной з вёсак паблізу геаграфічнага цэнтра Еўропы. Што можна сказаць пра гэты, здавалася б, стары кусок каляровага металу? Пра гэтую пасудзіну, якая ў нашай культуры лічыцца звычайным прадметам? Пытанне, ці гэтая рэч мае душу, у абставінах, калі шматлікія філосафы адмаўляюць ёй нават жывотным, лічу чыста рытарычным з нашага пункту гледжання. Але калі б мы ўсё ж такі памыляліся, калі б гэты бітон у сюрпрыз нам аказаўся асобай, не толькі з целам, але і з душой, на дадатак багатай душой з разнаколерным веерам усіх пачуццяў, з пералівам мікраэлектронных зарадаў у ягоных металічных нейронах... Ён бы нам расказаў пра сваё, магчыма, шматпакутнае жыццё...» Цяпер гэты бітон, здаецца, выйшаў на цвёрдую пенсію. Бо хто ж і чым будзе напаўняць ягоную ёмкасць нейкім зместам, калі закрыта суседняя крама, калі на прыпынак перасталі ездзіць аўтобусы з пасажырамі? А і выходзячым з касцёла пажылым вернікам хіба таксама не да сметніка. Апасаюся, што той сметнік можа папросту неўзабаве трапіць на... сметнік...

На прыкасцельных могілках у Залессі меркаваў я знайсці нейкі цікавы намагільнік, але не пашанцавала так як у Сідры. Праз прысёлак Ставарова падаўся я ў напрамку Кусцінцаў. *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага*: «Кусцінцы, вёска ў Сакольскім павеце Гродзенскай губерні, 24 вярсты ад Саколкі. Распаложана на вышыні 778 стоп над узроўнем мора». Стапа стапе няроўная, але больш-менш каля трэціны метра, значыць Кусцінцы каля 260 метраў над узроўнем мора... Праз вёску не паехаў, а па загуменнай дарожцы, захацеўшы пабачыць, ці яшчэ там, на загуменні, красуюцца багатыя агароды. І, можа, пры нагодзе, каго спаткаць, перакінуцца словам. Агарод яшчэ ёсць, але пагутарыць з нікім не ўдалося. І на вуліцы пуста, так як і ў суседніх Валынцах. І ў Сачкоўцах таксама.

А вось у Кавалях, насупраць каплічкі, два мужчыны. Спытаў пра каплічку, на якую ў дасюлешніх вандроўках не звярнуў асаблівай увагі. І вось адзін з іх, жывучы насупраць яе, паведаміў, што пабудавана яна каля трыццаці гадоў таму. Значыць, зараз пасля перамены грамадскага строю ў краіне. На маё пытанне пра заступніцтва каплічкі, адказаў ён, што афіцыйнага заступніцтва яшчэ няма, але ёсць наверсе літары MBKKP, якія з’яўляюцца абрэвіятурай ад слоў „Matka Boska Królowa Korony Polskiej”, якія запрапанавала ягоная маці. Ну і ягоная сям’я найбольш апякуецца невялічкім храмам, абнаўляючы яго так звонку, як і ў інтэр’еры.

У Кузніцы рамонт чыгуначнага вакзала ў поўным разгары. Цяпер добры час для гэтага, бо спынены трансгранічныя пасажырскі транспарт і можна там працаваць з поўным размахам.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 38